# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С-ГАСПАДАРКІ



№ 9

ЖНІВЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 9 (15) | Жнівень | 1930 г.


## За правільнае ажыцьцяўленьне выбарчага законадаўства.

Правільнае дапасаваньне выбарчага законадаўства на справе зьяўляецца адказным палітычным момантам у дзейнасьці саветаў і выканаўчых камітэтаў. Пры гэтым правільнае ўжываньне выбарчага законадаўства можа быць толькі тады, калі апошняе будзе на мясцох уважліва вывучана, калі будзе правільна зразумелай сутнасьць палітыкі савецкай улады ў гэтым пытаньні.

Тыя факты, якія назіраліся ўзімку гэтага году, асабліва на вёсцы і ў мястэчку, сьведчаць аб тым, што паасобныя выпадкі няправільнага прыстасаваньня выбарчага законадаўства былі гэткія, якія нічога супольнага з палітыкай савецкай улады ня маюць. Напрыклад, часта парушаліся інтарэсы некаторых сялян серадоякоў і нават беднякоў, тым, што іх няправільна абкладалі сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку і на гэтай падставе іх *мэханічна* пазбаўлялі выбарчага права. На жаль, ня гледзячы на яскравыя і зразумелыя пункты законаў і ўрадавых тлумачэньняў да іх, яшчэ і да гэтага часу на мясцох, у некаторых раёнах, ня зусім правільна разумеюць сувязь, узаемаадносіны паміж дзьвюма галінамі: дапасаваньнем выбарчага законадаўства і ўжываньнем індывідуальнага абкладаньня.

Яскравы прыклад гэтаму можна прывесьці з практыкі Копыльскай раённай выбарчай камісіі. Калі на падставе паказаньняў ЦВК СССР, Прэзыдыум ЦВК БССР 27-га лютага г-г. растлумачыў, маючы на ўвазе мажлівасьць памылак пры прымяненьні індывідуальнага абкладаньня, што абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку *ня цягне за сабой мэханічнага пазбаўленьня выбарчага права*, дык Копыльская выбарчая камісія свой пратакол запоўніла такімі шматлікімі пастановамі: „аднавіць у выбарчых правох, згодна пастановы ЦВК БССР ад 27-II—г-г, пазбаўленага, як абкладзенага падаткам індывідуальна“. Па думцы Копыльскіх работнікаў, выходзіць, што ЦВК забараніў індывідуальнікаў пазбаўляць выбарчага права. Зразумела, што гэты прыклад гаворыць аб безадказных, няўважлівых адносінах да элемэнтарнага азнаямленьня і вывучэньня дырэктыў Савецкай улады ў важнейшым пытаньні, што робіць не выпраўленьне зробленых памы-

лак, а новыя парушэньні дырэктыў і законадаўства. Фармальны падыход да справы выкананьня закону аб зьнішчэньні парушэньняў выбарчага законадаўства падобны да Капыля можа пацягнуць за сабой перагібы ў другі бок—аднаўленьня ў выбарчых правох кулакоў, эксплёататараў, сапраўдных індывідуальнікаў. Аб гэтым мы папярэджваем не чакаючы сканчэньня працы па праверцы сьпісаў лішэнцаў, што зараз праводзіцца на мясцох, з тым і для таго, каб такія памылкі і перагібы ў час праверкі былі выкрыты і выпраўлены.

Канстытуцыя БССР і, больш дэталёва, Інструкцыя аб выбарах у саветы вызначаюць кола асоб, якія павінны быць пазбаўлены выбарчага права. У прыватнасьці, у адносінах да земляробаў, падрабязна, пункт за пунктам вызначана, што выбарчага права пазбаўляюцца ўсе эксплёататарскія, кулацкія элементы, элементы, якія эксплёатуюць наёмную працу з мэтай атрыманьня прыбытку. Гэтым самым выбарчае законадаўства



Нацкамісія ЦВК у калгасах. Аглядаюць маемасьць калгасу „імя Карла Маркса“.

даўства адхіляе ад удзелу ў выбарах у саветы клясава-варожыя нам элементы. Адначасова выбарчае законадаўства патрабуе ад усіх адпаведных работнікаў вялікай ўвагі да такой важнейшай справы, як пазбаўленьне выбарчага права таго ці іншага грамадзяніна, патрабуе вытрыманага клясавага падыходу да паасобных выпадкаў з тым, каб не дапусьціць скрыўленьня палітыкі савецкай улады, парушэньня законаў, што праяўляецца ў няправільным пазбаўленьні выбарчага права асоб, якіх закон не пазбаўляе выбарчага права, і, наадварот, каб дамагчыся ўключэньня ў сьпісы лішэнцаў усіх асоб, якія нашым законадаўствам сапраўды пазбаўлены выбарчага права.

Якая існуе сувязь паміж пазбаўленьнем выбарчага права і абкладаньнем сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку? Згодна закону пра сельска-гаспадарчы падатак „Гаспадаркі лічацца кулацкімі і абкладаюцца ў індывідуальным парадку пры наяўнасьці наступных адзнак: а) калі гаспадарка сыстэматычна ўжывае наёмную

працу для сельска-гаспадарчых работ або ў саматужных промыслах і прадпрыемствах, за выключэньнем тых выпадкаў, калі па закону ўжываньне наёмнай працы не цягне за сабой пазбаўленьня права выбіраць у саветы"... (арт. 29). У гэтым пункце даецца асноўная ўстаноўка па закранутым пытаньні ў тым сэнсе, што важнейшым фактарам зьяўляецца выбарчае права і вынікі па дадатковай лініі ў сельскай гаспадарцы павінны рабіцца ў адпаведнасьці з наяўнасьцю, або адсутнасьцю выбарчага права. Яшчэ раз неабходна падкрэсьліць, што выбарчае заканадаўства пазбаўляе выбарчага права кулацкія элементы, якія і павінны быць абкладзены сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку. Таму, пытаньне аб пазбаўленьні выбарчага права



Нацкамісія ЦВК у калгасах. Чытаюць насьценгазэту (калгас „імя Карла Маркса").

неабходна вырашыць у першую чаргу, не чакаючы вучотнай сельскагаспадарчай падатковай працы. Гэтага патрабуе выбарчае і падатковае заканадаўства савецкага ўраду.

Усякая скарга на няправільнае пазбаўленьне выбарчых правоў, *павінна разглядацца ў адпаведным парадку незалежна ад прычын, выклікаўшых пазбаўленьне выборчага права.* Бо добра, калі тая ці іншая гаспадарка правільна па закону аднесена да ліку кулацкіх гаспадарак, але тут часам мажлівы і памылкі аднясеньня серадняцкіх гаспадарак да кулацкіх (мы маем шмат такіх прыкладаў) і таму гэтыя факты будуць азначаць, што падатковую памылку, зробленую па лініі падатковых органаў, мы падмацуем яшчэ больш буйнай памылкай—пазбаўленьнем выбарчых правоў. Тут неабходна ўзаемаправерка ў працы па выкананьню выбарчага і падатковага заканадаўства. Інструкцыя аб выбарах у саветы абавязвае апошнія весьці сыстэматычны вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права. З гэтага вынікае тое, што саветы павінны бязупынна сачыць за складам насельніцтва, якое пражывае на іх тэрыторыі,

павінны сваячасова выяўляць эксплёататарскія, кулацкія элемэнты і ставіць і вырашаць пытаньне аб пазбаўленьні іх выбарчага права. Саветы не павінны чакаць таго, пакуль якога-небудзь эксплёататара кулака абкладуць сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, каб на гэтай ужо падставе пазбавіць яго выбарчага права.

Выбарчага права трэба пазбаўляць раней за ўсё за тое, што даная асоба належыць да клясава-варожых эксплётатарскіх элемэнтаў, што яна эксплёатуе наёмную працу з мэтай атрыманьня прыбытку, а не „мэханічна" за тое, што асоба абкладзена сельска-гаспадарчым падаткам індывідуальна. Гэта азначала-б, што такое вельмі важнае палітычнае пытаньне, як пазбаўленьне выбарчага права, па сутнасьці ніколі-б не вырашалася саветамі, што саветы і выканаўчыя камітэты толькі-б мэханічна афармлялі па лініі выбарчага права пастановы сходаў і фінансавых органаў аб індывідуальным абкладаньні, нават і тыя пастановы, у якіх маюцца скрыўленьні агульных і спэцыяльных дырэктыў партыі і савецкай улады, як гэта мела месца ў паасобных выпадках у недалёкім мінулым.

Пры пазбаўленьні выбарчага права неабходна выходзіць не з таго факту, што даная гаспадарка абкладзена індывідуальна, якое абкладаньне можа быць памылковым, а перш за ўсё з тых асноўных установак, якія маюцца ў выбарчым законадаўстве. Кулака, эксплёататара трэба пазбавіць выбарчага права не таму, што ён абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам індывідуальна, а таму, што ён эксплёататар, што ён кулак, што ён ужывае з мэтай атрыманьня прыбытку наёмную працу. Індывідуальнікі павінны ў першую чаргу чарпацца са сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права, а не наадварот. Зразумелая рэч, што калі пры ўсякім новым вучоце аб'ектаў абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам будуць знойдзены факты для індывідуальнага абкладаньня гаспадаркі, тут трэба вырашаць справу па сутнасьці абкладаньня гаспадаркі, а таксама пазбаўленьня выбарчых правоў гэтых гаспадароў, не чакаючы складаньня сьпісаў у час выбарчай кампаніі.

Пры пазбаўленьні выбарчага права нельга падыходзіць фармальна да кожнага паасобнага выпадку. Да правільнага прыстасаваньня выбарчага законадаўства патрэбен палітычны падыход, патрэбна ўлічваць агульны напрамак дырэктыў партыі і рэвалюцыйнай законнасьці савецкай улады. У гэтай важнай палітычнай канстытуцыйнай справе зусім недапушчальным зьяўляюцца перагібы ў бок парушэньня інтарэсаў працоўных, не падлягаючых пазбаўленьню выбарчага права. Адначасова трэба падкрэсьліць з усёй рашучасьцю недапусьцімасьць няправільнага разуменьня і тлумачэньня выбарчага законадаўства, што цягне за сабой няправільнае аднаўленьне ў выбарчых правох асоб, якія падыходзяць пад пункты закону аб лішэнцах. У гэтай частцы справа зьяўляецца надзвычайнай складанай таму, што праверыць вышэйстаячым выканаўчым камітэтам няправільнасьць аднаўленьня ў выбарчых правох паасобных грамадзян вельмі цяжка.

Як вядома, вышэйшыя савецкія органы разглядаюць толькі скаргі асоб аб пазбаўленьні іх выбарчага права ніжэйшымі савецкімі органамі. Зразумела, што асобы, якіх няправільна на мясцох *аднавілі* ў выбарчых правох, „скарг" на гэта вышэйшым савецкім органам не пададуць. Тут неабходна дапамога з боку грамадзкасьці саветам і выканкомам выкрываць і сваячасова выпраўляць памылкі і з гэтага боку— другога перагібу.

**А. Хацкевіч.**

# КАЛГАСНАЕ БУДАУНІЦТВА

## Аб арганізацыі працы ў калгасах.

Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) даў асноўныя дырэктывы ў галіне арганізацыі працы, падняцьця працоўнай дысцыпліны і вытворчасьці працы ў калгасах. Гэта павінна ўтварацца на аснове сьвядомых адносін членаў калгасаў да сваіх абавязкаў, захаваньня прынцыпу адказнасьці за выкананьне даручанай работы і стварэньня асабістай зацікаўленасьці кожнага калгасьніка ў падняцьці вытворчасьці працы (зьдзельная аплата працы, нарміраваньне вырабатку, прэміраваньне і г. д.).

Для падвышэньня вытворчасьці працы ўсямерна павінны быць выкарыстаны мэтады сацыялістычнага спаборніцтва, стварэньня ўдарных груп, разьвіцьця работ вытворчых нарад і шырокага разгортваньня самакрытыкі. А між тым практычна ў гэтым напрамку вельмі мала чаго зроблена, пераломy ў рабоце няма яшчэ і дырэктывы партыі ня выкананы.

Акруговыя арганізацыі толькі пачынаюць разгортваць гэтую работу, а ў раёнах амаль не пачыналі яшчэ.

У маі месяцы г. г. было зроблена мэтавае абсьледваньне некаторых акруг і раёнаў у галіне арганізацыі працы. У гэтым артыкуле мы пазнаёмімся з становішчам гэтай справы ў Магілеўскай акрузе.

У апараце Акркалгассаюзу маюцца два работнікі па працы, якія часткова выкарыстоўваюцца і на іншых работах, асабліва кампанейскага характару. Што датычацца Акрпаляводсаюзу, дык ён гэтай справай зусім не зацікавіўся і не праводзіў. Адгэтуль можа судзіць, якая работа праводзілася ў саміх калгасах, раз ня было дастатковага кіраўніцтва і інструктаваньня іх. Больш даваліся пісьмовыя дырэктывы і паказаньні раёнам, якія з свайго боку паўтаралі (дубліравалі) іх і перасылалі калгасам, а то і гэтага не рабілі.

Праўда, да пачатку сяўбы вясною гэтага году Акркалгассаюз склікаў нараду старшынь Райкалгассаюзаў і буйнейшых калгасаў, на якой, у сувязі з падрыхтоўкай да вясновай сяўбы, абгавораны пытаньні і аб арганізацыі працы на час сяўбы.

Абсьледваньнем высьветлена, што дырэктывы па працы да калгасьнікаў яшчэ не даведзены, яны аб гэтых дырэктывах ня ведаюць. Мала асьвядомлены аб іх нават і члены Праўленьняў калгасаў. Напрыклад: распрацованая Белкалгасцэнтрам брашура „Арганізацыя і аплата працы ў калгасах", якая зьяўляецца вельмі каштоўным дапаможнікам у гэтай справе, спакойна ляжала ў шафе Быхаўскага Райкалгассаюзу, замест таго, каб яе разаслаць у калгасы. Тое самае можна сказаць і пра прыкладную інструкцыю ўнутранага распарадку ў калгасах. Нагогул кіраўнічай літаратурай калгасы не забясьпечаны.

Адным з больш дзейных мэтодаў масавай работы ў калгасах, безумоўна, зьяўляюцца вытворчыя нарады, у задачы якіх уваходзяць уцягненьне шырокіх мас калгасьнікаў і калгасьніц да актыўнага ўдзелу ў пабудове калектыўнай гаспадаркі на падставе адшуканьня, распрацоўкі і абмеркаваньня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі ўсёй гаспадаркі і павышэньня таварнасьці і продукцыйнасьці працы, выхаваньня

калгасьнікаў у духу сьвядомых адносін да калектыўнай вытворчасьці прылад, машын і г. д.

Аднак трэба прызнацца, што гэта работа намі не распачата. Праўда, палажэньне пра вытворчыя нарады прынята СНК БССР і разаслана па раёнах і калгасах яшчэ ў сакавіку месяцы г. г., але яно прышыта да спраў, вытворчыя нарады ў калгасах не арганізаваны і не працуюць. Наогул масавая работа зусім не разгорнута. Масавыя, партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі яшчэ не раскачаліся і як-бы не ўяўляюць сабе важнасьці гэтай работы.

Соцспаборніцтва разьвіта яшчэ слаба. Па Быхаўскаму раёну хацяі ўдзельнічае паміж сабою 11 калгасаў у сацспаборніцтве на пасьпяховае правядзеньне вясновай сяўбы, але калі прыглядзецца да сутнасьці сацспаборніцтва, дык у большасьці яно носіць фармальны характар: адны выклікалі на соцспаборніцтва, другія прынялі выклік і гэтым абмежаваліся. Узаемнай праверкі выкананьня сацдагавароў ня робіцца. Ня робіцца таксама праверка ўнутры калгаса, як выконваецца сацдагавор, не мабілізавана ўся ўвага калгасьнікаў вакол пытаньня сацспаборніцтва, як найвышэйшай формы сацыялістычнага будаўніцтва. Сацспаборніцтва паміж брыгадамі, групамі і паасобнымі калгасьнікамі ўнутры свайго калгасу не разьвіта. Партыйная і камсамольская частка калгасьнікаў праяўляюць яшчэ некаторую пасыўнасьць і не зьяўляецца пакуль што той сілай, якая-б вяла ўсю калгасную масу для ўдзелу ў сацспаборніцтве.

Маюцца і абураючыя факты, аб якіх мы ніяк ня можам маўчаць. Напрыклад: у калгасе Сьвярдлова камсамольская ячэйка склала ўдарную групу для выхаду ў поле, шырока рэклямавала гэта і потым самі-ж камсамольцы ня вышлі на работу ў вызначаны тэрмін, якая і была сарвана. Такая „работа“ зрабіла вельмі дрэннае ўражаньне на беспартыйную масу і, акрамя дыскрэдытацыі, нічога ня прынесла.

Патрэбна, каб партыйцы і камсамольцы калгасаў і сельскіх ячэек наогул разварушыліся і той кароткі час, які застаўся да ўборачнай і асеньняй пасяўной кампаніі, выкарысталі для арганізацыі работы вытворчых нарад і сацспаборніцтва ў калгасах і стварэньня ўдарных брыгад на гэтыя кампаніі і потым павінна весьціся сыстэматычная работа па ўцягненьню ўсяе калгаснае масы ў гэтую справу.

Арганізацыя працы ў калгасах пакуль што знаходзіцца на нізкай ступені. Спэцыялізацыя калгасьнікаў у адной якой-небудзь галіне працы, што бязумоўна спрыяла-б працукцыйнасьці працы і лепшаму выкананьню даручанай работы, мала практыкуецца; некаторае выключэньне складае галіна жывёлаводчая і будаўніцтва.

Лепшым мэтадам арганізацыі працы, бязумоўна, зьяўляецца стварэньне спэцыяльных брыгад і груп, для якіх павінна вызначацца пэўнае заданьне (норма) выработкі і тэрміны для скончэньня гэтых работ, прычым, у мэтах падвышэньня прадукцыйнасьці працы, раіцца ўжываць сыстэму прэміраваньня за лепшую работу, аднак калгасамі гэта ня робіцца. Нормы выработкі не распрацованы і яшчэ не адчуваецца адказнасьці з боку калгасьнікаў за даручаную работу і якасьць яе.

Працоўная дысцыпліна ў калгасах ня высокая і ў гэта месца мы павінны біць. Многа было выпадкаў нявыходу на работу, пры чым у веснавую сяўбу цэлыя групы калгасьнікаў ні разу ня выходзілі на работу (калгас імя Сьвярдлова, Рэвалюцыі) і мер барацьбы з гэтым зьявішчам ніякіх ня ўжывалася. Патрэбна прыглядзецца да такіх „калгасьнікаў“, можа частка з іх уступілаў калгас з мэтай падрыву яго работы. Але

ня можна не адзначыць вялікай сьвядомасьці і высокай працоўнай дысцыпліны з боку ініцыятыўнай групы калгасьнікаў і калгасьніц (актыў), якая ў вясновую сяўбу вынесла ўвесь цяжар работы, зьяўляючыся сапраўднымі будаўнікамі сацыялістычнай гаспадаркі.

Аб ступені выкарыстаньня рабочай сілы ў калгасах можна судзіць хаця-б па такіх даных: за сакавік—май калгасам Рэвалюцыя скарыстана рабочай сілы на 25 проц. і калгасам Сьвярдлова 19 проц. У мэтах матэрыяльнай зацікаўленасьці калгасьнікаў і падняцьця вытворчасьці працы неабходна паступова пераходзіць да зьдзельшчыны, якая апраўдала сябе на практыцы старых калгасаў і саўгасаў. У галіне арганізацыі і нармаваньня працы неабходна выкарыстаць вопыт бліжэйшых саўгасаў, што да гэтага часу чамусь-та не разбілася.

Трэба рашуча змагацца супроць сыстэматычнага ўжываньня наёмнай рабочай сілы калгасамі ў той час, калі свая рабочая сіла ня поў-



Раніцай у калгасе „імя Чарвякова“. Выхад на палявыя работы.

насьцю выкарыстоўваецца. Прыклад кам. Карла Лібкнэхта, якая за мінулы год выплаціла за наёмную рабочую сілу 7986 руб., а членам камуны 31.672 руб., г. зн. 20 проц. зарплаты падае на наёмную сілу.

Не наладжан яшчэ вучот работы, а якасьць работы зусім ня ўлічваецца. Напрыклад: у табелі запісваецца ў які дзень, на якой рабоце і колькі часу прапрацаваў калгасьнік, а колькі ён вырабіў, або колькі вырабіла ўся група і якасьць зробленай работы—не адзначаецца.

Аплата працы ў большасьці калгасаў ужываецца падзённая, якая ня можа спрыяць прадукцыйнасьці працы. Вялікая стракатасьць існуе ў расцэнцы (тарыфікацыі). У калгасе Сьвярдлова 2 разрады, Рэвалюцыя—5 разрадаў, пры чым да разрадаў адносіцца не кваліфікацыя работнікаў, або клясыфікацыя работ, а пэрсанальна людзі, незалежна ад таго, якую работу яны потым выконваюць.

Пры расплаце за работу парушаецца 15 арт. статуту, якім прадугледжваецца авансаваньне за работу на працягу году да 50 проц., а рэшта павінна выплачвацца ў канцы гаспадарчага году, у залежнасьці ад становішча гаспадаркі. У камуне Карла Лібкнэхта ня толькі выдаецца поўнасьцю плата за работу ў працягу году, але даюцца аван-

сы наперад. На 25 мая сума запазычанасьці членаў камуны дасягнула 5984 р., прычым у ліку завінавачаных ёсьць асобы кіруючага складу (старшыня Праўленьня, старшыня Рэўкамісіі, был. сакратар партячэйкі). Ніякіх мер да ліквідацыі гэтай запазычанасьці ня прымаецца і яна з кожным годам павялічваецца.

Зусім недапушчальным зьяўляецца тое, што да гэтага часу калгасамі ня зроблены сталы вучот і ацэнка абагуленай маемасьці, што патрэбна было зрабіць зараз-жа пры арганізацыі калгасу.

Статыстыка, пачынаючы ад рэспубліканскіх цэнтраў сел.-гасп. каапэрацыі і канчаючы калгасамі, пастаўлена вельмі слаба, на што неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

У галіне аховы працы работа амаль не распачата.

Кіраўніцтва з боку рэспубліканскіх і акруговых цэнтраў сел.-гасп. каапэрацыі раёнамі і калгасамі ў галіне арганізацыі працы да гэтага часу абмяжоўвалася паперамі, жывое кіраўніцтва амаль адсутнічала. Патрэбна, каб работнікі на працы зьверху да нізу большую частку свайго часу знаходзіліся ў калгасах, вывучаючы гэту галіну на мясцох і праводзілі інструктаваньне калгасаў у гэтым напрамку.

Усім арганізацыям і савецкай грамадзкасьці, патрэбна ўсю ўвагу накіраваць на зьнішчэньне ўсіх недахопаў і няўвязак ў галіне арганізацыі і аплаты працы ў калгасах, з тым, каб паставіць гэтую работу на належную вышыню.

Ад гэтага залежыць разьвіцьцё і ўзмацненьне калгасаў, калгаснага будаўніцтва і вытворчасьці працы. Неабходна таксама ўзмацніць раёны адпаведнымі работнікамі па працы і арганізаваць бюро працы ў буйных калгасах.

**А. Брушкоў.**

**Белпаляводсаюз.**

---

# Уборка і разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў калгасу.

Умовы ўборкі ўраджаю і асабліва разьмеркаваньне яго ў гэтым годзе вельмі складанае. У калгасах няма яшчэ дастатковага вопыту для таго, каб гэтае пытаньне ўсебакова вырашыць загадзя. Даць-жа зьверху якія-небудзь вычарпальныя дырэктывы, якія аднолькава былі годны для ўсіх калгасаў, маючых свае асаблівасьці як па грамадзка-экономічным формам, гэтак і па ступеням абагуленьня маемасьці і сродкаў вытворчасьці—вельмі цяжка.

Мы заняліся-б бюрократычнай справай, нікому не патрэбнай і вельмі шкоднай для калгаснага будаўніцтва, калі сталі-б устанаўліваць для ўсіх калгасаў якія-небудзь аднальковыя формы і нормы для разьмеркаваньня ўраджаю.

Вось чаму Праўленьне Белкалгасцэнтру ў сваім асабістым лісьце да ўсіх Праўленьняў калгасаў і Раённых Саюзаў падкрэсьлівае, што „кожны калгас, на падставе прынятага статуту, маючыхся пастаноў Ураду па данаму пытаньню і з улікам усіх мясцовых асаблівасьцяй, павінен абмеркаваць і вырашыць на агульным сходзе калгасу пытаньне аб разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў калгасу“.

У сваім лісьце Праўленьне Белкалгасцэнтру дае толькі агульныя дырэктывы і ўстаноўкі, якія павінны дапамагчы калгасьнікам правільна вырашыць гэтае вельмі складанае і адказнае пытаньне.

Бязумоўна, пры разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў калгасу трэба ўлічваць тое, каб забясьпечыць кожнаму колгасьніку ўзровень яго жыцьця ў калгасе ня ніжэй, а вышэй таго ўзроўню, які ён меў ад сваёй паасобнай гаспадаркі да ўваходу ў калгас. Зразумела, што пры гэтым трэба мець на ўвазе тое, што, акрамя атрыманых хлебапрадуктаў, грошай, кармоў для сваёй неабагуленай жывёлы, кожны калгасьнік частку сваіх сродкаў пакідае ў абагуленым фондзе калгасу, які служыць крыніцай для далейшага палепшаньня і павялічэньня ўзроўню жыцьця кожнага калгасьніка, а таксама і тое, што культурнае абслугоўваньне калгасьнікаў значна вышэй таго, якое атрымліваюць адзіналічныя гаспадаркі.

Разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў калгасу неабходна праводзіць так, каб гэтае разьмеркаваньне поўнасьцю садзейнічала і спрыяла падняцьцю вытворчасьці працы і ўзмацненьню працоўнай дысцыпліны калгасьніка, без якой ніводная калектыўная гаспадарка ня зможа разьвівацца.

Разьмеркаваньне ўраджаю трэба правесьці яшчэ і так, каб ніводнага незадаволенага разьмеркаваньнем калгасьніка ня было.

Беднякі і серадdespite некалгасьнікі зорка сочаць за справай калгасу і на вопыце ўборачнай кампаніі, арганізаванасьці калектыўнай працы і асабліва на вопыце разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў калгасу паміж калгасьнікамі—будуць упэўнівацца ў пераважнасьці буйнай калектыўнай гаспадаркі. І ў залежнасьці ад таго, наколькі калгасы правільна, своечасова і арганізавана правядуць уборку і разьмеркаваньне ўраджаю і іншых прыбыткаў калгасу, будзе ў значнай ступені залежыць далейшае разьвіцьцё калектыўнага будаўніцтва і арганізацыя новых дзесяткаў тысяч беднякоў і серадднякоў у калгасе.

Вось чаму, справа ўборкі ўраджаю і асабліва разьмеркаваньне яго ў гэтым годзе зьяўляецца рашаючым зьвяном, учапіўшыся за якое, мы зможам пацягнуць усё калектыўнае будаўніцтва наперад.

### Як убіраць ураджай з адзіналічных палосак калгасьнікаў.

Большасьць калгасьнікаў сеялі азімыя ўвосень 1929 г. паасобку. Ужо ўсе, здаецца, калгасьнікі ведаюць аб тым, што пасеў, праведзены ў адзіналічным парадку, застаецца ў поўным распараджэньні пасеўшчыкаў. З гэтага ўраджаю калгасьнікі павінны ўнесьці адпаведную колькасьць жыта ці азімай пшаніцы ў насенны фонд калгасу, а таксама здаць нарыхтоўчым органам частку сваіх лішкаў, згодна дагавароў па контрактацыі. Па інструкцыі Белкалгасцэнтру ад 17-га чэрвеня г. г. ўхваленай НКЗ‘мам Бел., кожны калгасьнік уносіць у насенны фонд калгасу з свайго не абагуленага пасеву адпаведную колькасьць азімых культур, пропорцыянальна плошчы пасеву, з такім разьлікам, каб засеяць усю плошчу азімага кліну, вызначанага па пляну калгасу на 1930/31 год.

Гэтае-ж самае датычыцца і да старых калгасьнікаў, якія ў 1929 годзе сеялі азімыя культуры калектыўна і зараз складаюць у калгасе нязначную частку ўсяго складу калгасу. Мы павінны старых калгасьнікаў, гэтых сапраўдных піанэраў калектыўнага руху, паставіць ня ў горшыя

ўмовы параўнальна з новымі калгасьнікамі, у якіх маюцца індывідуальныя пасевы азімых, г. зн., што ў тых калгасах, якія ўзбуйнены пасьля пасеву азімых увосень 1929 году, ураджай, утвораны калектыўна старымі калгасьнікамі, павінен поўнасьцю застацца ў поўным распараджэньні тых калгасьнікаў, якія ўтварылі гэты пасеў.

Паўстае пытаньне—як могуць праводзіць уборку ўраджаю калгасьнікі на сваіх індывідуальных палосках? Наконт гэтага няма абавязковых дырэктыў. Самі калгасьнікі павінны вырашыць, як праводзіць ўборку ўраджаю. ЦК КП(б)Б у сваім лісьце да ўсіх акруговых і раённых Камітэтаў партыі па гэтаму пытаньню паказвае, што „ў мэтах больш правільнага разьмеркаваньня рабочай сілы і скарыстаньня машын уборку ўраджаю ў калгасьнікаў, якія маюць індывідуальныя палоскі пасеву, мэтазгодна праводзіць калектыўным парадкам". Гэтае паказаньне ЦК партыі зусім правідловае. Самі калгасьнікі шмат якіх калгасаў парашылі ўжо ўборку ўраджаю праводзіць калектыўна. Калгасьнікі на вопыце правядзеньня вясеньняй пасеўкампаніі добра ўпэўніліся ў тым, што колектыўная праца мае вялікія пераважнасьці перад індывідуальнай, бо яна больш прадукцыйна. Самі калгасьнікі разумеюць, што быць у калгасе і працаваць у індывідуальным парадку неяк сорамна і кулакі і падкулачнікі будуць сьмяяцца над тымі калгасьнікамі, якія пойдуць у адзіночку жаць сваі палоскі. Кулак усялякімі мерамі падштурхоўвае калгасьнікаў на тое, каб яны ўбіралі азімы хлеб у адзіночку. Кулак спадзяецца, што гэтым ён адцягне бядняцка-серадняцкія масы ад калгасу. Але кулак і падкулачнік таксама будзе сьмяяцца і тады, калі мы ня добра і ў калектыўным парадку правядзем ўборку ўраджаю. Таму трэба добра абгаварыць і абмеркаваць на групах беднаты, на Праўленьнях калгасаў і на агульных сходах калгасьнікаў, як убіраць, хто будзе ўбіраць, якімі машынамі і за якую плату будзе праводзіцца ўборка ўраджаю, як калектыўнага пасеву гэтак і адзіналічнага.

Трэба адхіліць думкі некаторых калгасьнікаў наконт таго, што машынай, як быццам, нельга жаць на паасобных палосках. Гэта няправільная думка. Вопыт паказаў, што машына жне, ня гледзячы на мяжу. Трэба таксама самім калгасьнікам вырашыць, ці будуць калгасьнікі жаць і малаціць калектыўна пасевы адзіналічнікаў, не абагуліўшы для гэтага пасеву, г. зн. жаць і малаціць ураджай кожнай палоскі паасобку, ці раней усе гэтыя палоскі ўмоўна трэба абагуліць для ўборкі і абмалоту і пасьля гэтага ўраджай зярна, саломы, мякіны і інш. разьмяркоўваць паміж калгасьнікамі адпаведна іх плошчы пасеву. І той і другі парадак, які ўстанаўліваецца самімі калгасьнікамі, мае свае станоўчыя і адмоўныя бакі. Таму калгасьнікі павінны добра абмеркаваць і ўсебакова абгаварыць гэта пытаньне раней, чым канчаткова яго вырашыць. Тут навязваць што-небудзь зьверху вельмі шкодна. Мы павінны толькі падкрэсьліць тое, што калгасьнікі пры абгаварэньні гэтага пытаньня павінны мець на ўвазе і самі вырашыць:

а) устанаўленьне платы за ўборку ўраджаю, возку яго на гумно і абмалот;

б) устанавіць для кожнага калгасьніка разьмер ссыпкі зярна ў насенны фонд;

в) здачу лішкаў хлеба нарыхтоўчым організацыям, згодна дагавароў па контрактацыі.

Плата за ўборку ўраджаю, правадзімую калектыўным парадкам, павінна быць, прыблізна, такой, якую атрымліваюць калгасьнікі, пра-

цуючыя ў калгасе на абагуленай гаспадарцы. Зразумела, што плата праводзіцца за рахунак данага ўраджаю натураю ці грашыма, як пастановіць аб гэтым сход саміх калгасьнікаў.

Акрамя здачы зярна ў насенны фонд і па контрактацыі ніякіх іншых адлічэньняў у розныя фонды з адзначанага ўраджаю не праводзіцца.

Тут таксама ня лішнім напомніць для яскравасьці, што пасеў старых калгасьнікаў абавязкова праводзіцца калектыўна, незалежна ад таго, як будзе рашано ўбіраць пасеў з індывідуальных палосак калгасьнікаў.

## Колькі, куды і якім парадкам адлічваецца ад ураджаю калгасу і як разьмяркоўваецца ўраджай і прыбытак калгасу.

Раней, чым прыступіць да разьмеркаваньня ўраджаю паміж членамі калгасу, трэба падвесьці вынікі і падлічыць увесь ураджай і прыбыткі калгасу. Праўленьне калгасу павіна *добра падлічыць увесь ураджай і прыбыткі калгасу.* Гэты падлік абавязкова трэба зацьвердзіць на агульным сходзе калгасьнікаў. Мы павінны катэгорычна папярэдзіць Праўленьні, асабліва старшынь Праўленьняў калгасаў аб недапушчальнасьці ігнарыраваньня сходаў калгасьнікаў. Рэвізыйныя камісіі калгасаў абавязаны дэталёва праверыць усе прыбыткі і вынікі ўраджаю калгасу і скласьці адпаведны акт. Тыя старшыні Праўленьняў калгасаў, якія будуць тармазіць працу рэўкамісій калгасаў, ці будуць несваячасова дакладваць агульнаму сходу на зацьверджаньне справаздачу аб усіх выдатках і прыбытках калгасу, безадкладна павінны зьнімацца з працы.

У некаторых калгасах рахункаводзтва вядзецца вельмі дрэнна, уся бухгальтэрыя, як кажуць, у кішэні старшыні. Гэта несьцярпімае становішча дае глебу для розных злоўжываньняў. Таму кожны калгасьнік павінен узяць пад асабісты кантроль усю справу калгасу. Мы павінны дабіцца, каб кожны калгасьнік добра ведаў, колькі дзён ён працаваў. Кожны калгасьнік павінен праверыць, ці правільна запісана па кнігах рахункаводзтва яго праца.

Праўленьне калгасу абавязана падлічыць, колькі з агульных прыбыткаў і валавога ўраджаю калгас павінен адлічыць для выкананьня розных абавязацельстваў і ў непадзельныя і іншыя фонды калгасу.

Што гэта за абавязацельствы калгасу?

### 1. Сельска-гаспадарчы падатак.

Кожны калгасьнік павінен ведаць, які с/г. падатак у гэтым годзе згодна пастановы СНК БССР, калгас павінен плаціць, а таксама, якія ільготы калгасьнікам прадастаўлены Урадам. Праверыўшы ўсю гэтую справу, трэба точна падлічыць, колькі неабходна адлічыць ад ураджаю і прыбыткаў калгасу на ўплату с/г. падатку, маючы на ўвазе, што с/г. падатак уносіцца грашыма, а таму трэба сваячасова рэалізаваць ураджай, калі ў калгасе няма наяўных грошай.

## 2. Страхаваньне абагуленай жывёлы, пасеваў і будынкаў.

Гэтая справа вельмі адказная і сур'ёзная. Праўленьню калгасу неабходна зьвязацца з раённым агэнцтвам Дзяржстраху і точна выявіць, колькі і калі калгас павінен заплаціць страхоўкі і адпаведным адлічэньнем ад прыбытку і ўраджаю забясьпечыць сваячасовую ўплату гэтай страхоўкі.

## 3. Непадзельныя капіталы і фонды.

Па статуту с/г. арцэлі (п. 11) на разьвіцьцё і палепшаньне абагуленай гаспадаркі праводзяцца адлічэньні ў непадзельны капітал ад 10 до 30% і ў грамадзкія фонды—ад 5 до 15%. Праўленьне Калгасцэнтру рэкамэндуе калгасам ў гэтым годзе правесьці адлічэньні ў непадзельны капітал ня звыш 10% і іншыя грамадзкія фонды ня звыш 5%,



Калгасьнікі знаёмяцца з калгаснымі ільготамі.

пры чым гэтае адлічэньне правадзіць не з валавога ўраджаю і прыбытку, а пасьля адлічэньня ў насенны фонд, кармавы фонд для абагуленай жывёлы і выдаткаў на аплату сел.-гас. падатку і страхаваньне калгаснай абагуленай маемасьці.

З чаго выходзіла Праўленьне Белкалгасцэнтру, выносіўшы такое рашэньне, прытрымліваца якога калгасам, бязумоўна, неабходна?

Праўленьне Белкалгасцэнтру прыняла пад увагу тое, што большасьць калгасаў зьяўляецца вельмі маладымі і гаспадарча яшчэ не настолькі замацаваны, каб магчыма было ўжо ў гэтым годзе вытварыць прадугледжаныя статутам адлічэньні ў непадзельны капітал і грамадзкія фонды, адначасова забясьпечыць кожнаму калгасьніку ўзровень яго жыцьця ў калгасе вышэй таго ўзроўню, які ён меў да ўваходу ў калгас, ад

сваёй індывідуальнай гаспадаркі. Маючы на ўвазе апошняе, трэба прама сказаць, што імкненьне зразу-ж на працягу аднаго-двух год, як гэта некаторыя калгасьнікі робяць, правесьці цэлы шэраг гаспадарчых мерапрыемстваў у калгасе за рахунак выключна непадзельных капіталаў, зьяўляецца на даным этапе калгаснага будаўніцтва няправільным і шкодным.

Зразумела, што ўсё гэта адносіцца да тых калгасаў, якія арганізаваліся нядаўна і арганізацыйна-гаспадарчае становішча іх такое, што яны ня могуць адлічваць у непадзельныя грамадзкія фонды ў разьмеры, прадугледжаным статутам с/г. арцелі. Калгасы больш моцныя, якія маюць прыбыткі ад розных прадпрыемстваў, садоў і г. д., бязумоўна, павінны поўнасьцю прытрымлівацца статуту і адлічваць у непадзельны капітал ад 10 да 30% і ў грамадзкія фонды ад 5 да 15%.

Вельмі важным зьяўляецца пытаньне аб аказаньні дапамогі непрацаздольным членам калгасу, як аб гэтым сказана ў статуту с/г арцелі (п. 16). Мы, зразумела, павінны ўсялякімі мерамі аказваць дапамогу непрацаздольным членам калгасу, а таксама часова страціўшым працаздольнасьць. Аднак, у гэтым годзе ў большасьці маладых калгасаў мы ня зможам утварыць дастатковыя для гэтага фонды. Прыдзецца абмежавацца 5%, якія адлічваюцца ў грамадзкія фонды і ў межах гэтага дапамагаць непрацаздольным членам калгасу. За рахунак данага 5% фонду таксама трэба будзе правадзіць усе выдаткі па культурнаму абслугоўваньню калгасьнікаў і палепшаньню дабрабыту іх.

### 4. Пакрыцьцё запазычанасьці і працантаў па ёй.

Амаль-што ўсе калгасы атрымалі ад сельгасбанку значную суму крэдыту. Частку гэтага крэдыту і працанты трэба заплаціць увосень г. г., а частку на працягу году і больш. Кожны калгасьнік павінен добра ведаць, што толькі пры сваячасовым звароце крэдыту дзяржава зможа ў далейшым выдаваць калгасам крэдыты на новыя мерапрыемствы, забясьпечваючыя далейшае разьвіцьцё калгасу. Вось чаму неабходна ад ураджаю іншых прыбыткаў калгасу адлічыць такую суму прыбыткаў, якая поўнасьцю забясьпечыла-б пагашэньне тэрміновых плацяжоў сельгасбанку па абавязацельству калгасу.

Шмат мерапрыемстваў у калгасе праводзіцца за рахунак спэцыяльных крэдытаў і пазык. Напрыклад, калгас атрымаў ў раённым с/г. банку крэдыту 3.000 р. на пабудову сьвінарніку і набыцьцё сьвінаматак. Маемасьць, набытая за гэты крэдыт, зьяўляецца непадзельнай і застаецца абагуленай і тады, калі калгас пагасіць паказаных 3000 р. крэдыту. У гэткіх выпадках пагашэньне крэдыту праводзіцца ў першую чаргу за рахунак адлічэньняў у непадзельныя фонды і толькі тады, калі ня хопіць апошніх, трэба адлічыць нехапаючую суму сродкаў з агульных прыбыткаў калгасу, у тым ліку і ад ураджаю калгасу.

### 5. 5%-ы фонд для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі адпаведна абагуленай імі маемасьці.

Гэты фонд мае вялікае значэньне для разьвіцьця калектыўнай гаспадаркі, бо ён у значнай ступені садзейнічае ўзросту абагуленьня калгасьнікамі сродкаў вытворчасьці і маемасьці. *5% фонд складаецца з адлічэньняў ад валавога ўраджаю калгасу і тых прыбыткаў, якія*

*калгас атрымаў ад абагуленай калгасьнікамі жывёлы.* Прыбыткі ад кароў, набытых за рахунак крэдыту, ці іншых сродкаў калгасу, ня могуць быць прыняты ў рахунак для адлічэньня ў 5% фонд.

Яскравая справа, што разьмеркаваньне 5%-аў валавога ўраджаю і прыбытку ад абагуленай калгасьнікамі жывёлы дае магчымасьць атрымаць прыбытку больш таму, хто больш унёс у абагулены фонд калгасу маемасьці. Гэта, бязумоўна, выкліча шмат неправідловых гутарак сярод калгасьнікаў і разважаньняў наконт таго, што мы больш даем серадняку і г. д.

Тут трэба растлумачыць, што чым больш абагулена маемасьці ў калгасу, тым калгас мацней і бальш дае карысьці ўсім калгасьнікам і ў першую чаргу батрацкай і бядняцкай частцы яго. Вось чаму мы павінны ўсялякімі мерамі садзенічаць абагуленьню маемасьці.

Пры разьмеркаваньні паказаных 5% па абагуленай маемасьці калгасы павінны ўлічваць тое, што, згодна пастановы ЦВК і СНК БССР ад 1 лютага 1930 г. кулацкая маемасьць ці частка гэтай маемасьці залічвалася ў калгас у якасьці ўзносу батракоў і беднякоў і што адпаведна гэтых узносаў беднякі і батракі маюць права атрымліваць прыпадаючую на іх долю сродкаў з 5% фонду.

Пасьля паказаных усіх адлічэньняў ад валавога ўраджаю і прыбытку калгасу (5%-ы фонд, насенны фонд, кармавы фонд, с/г. падатак, страхоўка, непадзельны капітал і грамадзкія фонды і інш.) *уся астатняя колькасьць валавога ўраджаю і прыбыткаў калгасу падзяляецца паміж калгасьнікамі прапарцыянальна колькасьці працадзён, прароб-леных кожным калгасьнікам у калгасе.* Па гэтаму пытаньню ёсьць шмат розных разважаньняў. Некаторыя кіраўнікі калгасаў лічаць неабходным разьмяркоўваць ураджай і прыбыткі калгасу не па працаднёх, а па едакам ці па сем'ям калгасьнікаў. Калі мы дапусьцім такое разьмеркаваньне ўраджаю, мы створым сабезаўскія настроі паасобных калгасьнікаў і пазбавім стымулу для падняцьця вытворчасьці працы ў калгасе.

Бязумоўна, Праўленьні калгасаў павінны ўсяляк паклапаціцца аб тым, каб калгасьнікі былі забясьпечаны неабходнымі прадуктамі сельскай гаспадаркі, каб калгасьнікі ня ішлі на рынак за гэтымі прадуктамі. Для гэтага ў калгасе маюцца ўсе магчымасьці: па-першае, калгасьнікі абавязкова павінны атрымаць прадукты натураю ў той частцы, якая прыпадае на іх долю пры разьмеркаваньні ўраджаю адпаведна колькасьці прапробленых у калгасе кожным калгасьнікам дзён. Па, другое, адлічэньне ад ураджаю ў непадзельны, грамадзкія і іншыя фонды, а таксама на аплату падатку, страхоўкі і інш. калгасы таксама могуць гэтыя адлічэньні ўтвараць натурай—зярном і па меры патрэбы гэтыя зернапрадукты адпушчаць калгасьнікам па сабекошту, такім чынам забясьпечыць калгасьнікаў прадуктамі.

Правільна арганізованая і добра праведзеная ўборка ўраджаю і правідловае разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў калгасу па колькасьці і якасьці працы кожнага калгасьніка, бязумоўна, будуць садзейнічаць гаспадарчаму і арганізацыйнаму замацаваньню калгасаў і забясьпечаць далейшае пасьпяховае разгортваньне калектыўнага будаўніцтва.

**Г. Самусевіч.**

# Аб пажніўных культурах.

Пажніўныя культуры даюць магчымасьць у адзін год атрымаць два-паўтары ўраджаі. Гэта магчыма ў паўднёвай і паўднёва-ўсходняй частцы БССР, дзе вэгетацыйны пэрыяд значна даўжэйшы, чымся ў рэштцы Беларусі. Калгасы і саўгасы павінны, па магчымасьці, скарыстаць глебу пасьля прыборкі першага пасеву яшчэ раз. Першымі, як вядома прыбіраюцца азімая віка-жытняя мешанка, потым канюшына як першага, гэтак і другога году, потым віка-аўсяная мешанка і ўрэшце жыта, ячмень і авёс. Разгледзім, чым трэба скарыстаць поле ўва ўсіх выпадках пасьля прыборкі паказаных культур.

Падзелім усе культуры на дзьве групы па ступені тэрміновасьці прыборкі: першы тэрмін прыборкі—гэта жыта-вікавая мешанка, канюшына і яравая віка і другі—жыта і ячмень.

Пасьля прыборкі расьлін 1 групы—пакольki глеба з-пад іх добра ўгноена, магчыма сеяць пажніўныя культуры на зялёны корм, або на сілас. Пасеяная культура нават у канцы чэрвеня—можа даць зялёнай масы да 200 цнт на 1 *га* (ці сухое 50—60 цнт). Пасьля прыборкі вікі і канюшыны (калі яе няма карысьці астаўляць на атаву ці на 2 год) пажадана зараз-жа ўнясьці азотнафосфарнае ўгнаеньне, а калі магчыма і попелу 6—10 цнт. на *га*. Азотныя ўгнаеньні ўносяцца ў выглядзе серкаваснага амонія, а фосфарнае ў выглядзе супэрпосфату—у звычайных нормах—па 3—4 цнт на *га*. Гноем, вядома, упаўне магчыма замяніць гэтыя ўгнаеньні. Пасьля ўнясеньня ўгнаеньня глеба ўзворваецца плугам, вельмі пажадана з дзёрназдымам на 16—18 сант. Усьлед за плугам сеецца конным радавым сяўнікам або ручным плянэт кукуруза з разьліку на 1 *га* ня менш 60 клгр., а то і ўсіх 135 клгр. Усьлед поле скародзіцца ў 1-2 сьляды і за скароджаньнем пускаюць каткі для прыкатваньня. Пасьля пасеву трэба сачыць, каб вароны і шпакі ня зьелі насеньне. Унікнуць гэткай небясьпекі можна толькі паставіўшы вартаўнікоў да часу пакуль кукуруза добра ўкараніцца.

Кукуруза разьвіваецца да канца верасьня, калі скарыстоўваецца на зялёны корм і нават пазьней, да 15-30 кастрычніка, калі будзе скарыстана на сіласны корм. З мэтай пульхненьня міжрадзьдзяў і барацьбы з пустазельлем, пажадана асыпаць міжрадзьдзі некалькі раз. Лічаць пажаданым у пачатку росту кукурузы паліваць яе разбаўленай гнаёвай жыжкай.

З іншых пажніўных культур пасьля рана прыбранай азімай вікі і яравой на зялёны корм, сеюць грэчку. Пры пасеве яе ў сярэдзіне, ці нават у канцы чэрвеня і пачатку ліпеня магчыма чакаць ураджай зернят каля 6—5 цэнтн. і саломы да 18 цэнтн. на 1 *га*, пры здавальняюча-вільготным і цёплым канцы лета. Пасеў грэчкі звычайна робіцца зараз-жа пасьля пераворкі вікавішча.

Пасьля прыборкі жыта, ячменю і ў большай яшчэ ступені пасьля рана астаўляючых поле культур (вікі і канюшыны) вельмі пажаданы пасеў раньняга „шасьцітыднёвага турнэпсу, ці пасадка расады бручкі. Глеба пад іх апрацоўваецца плугам і дзёрназдымам, павярхоўна ўносяцца ўгнаеньні: сернаквасны амоні, салетра і супэрсфосфат. Ня менш пажадана і ўнясеньне каліевых угнаеньняў. Вельмі карысна поле паліць перад пасевам, або расаду гнаёвай жыжкай. Угноенае поле барануецца, а потым прыкатваецца. Пасеў робіцца сяўнікам плянэт з міжрадзьдзем у 25—30 сант., пры густаце высеву каля 3-4 клг. на *га*. Расаду

садзяць з такім-жа міжрадзьдзем, але ў раду даюць 20—30 сант. каліва ад каліва ў залежнасьці ад папярэдняй запраўкі глебы. Глеба павінна быць угноена, як і да караньплодаў. Расаду бручкі гадуюць у асаблівых выхавальніках, высяваючы яе за $1^1/_2$ месяцы да тэрміну высадкі. Перасадку робяць пасьля першага дажджу ці ў час яго, каб ня трэба было паліваць. Перад высадкай расады яна моцна паліваецца ў выхавальніку, далей карані яе абмакваюцца ў рошчыну з кароўяга калу і гліны, высаджваецца ў ямкі і паліваецца ўсьлед за высадкай.

Полка міжрадзьдзяў, пульхненьне іх робіцца ручным палольнікам, так як і кукуруза. Прарэджваньне турнэпсу і полка пустазельля ў радкох робіцца ўручную.

Ураджай Турская дасьледчая станцыя атрымоўвала, у залежнасьці цеплавых і вільготных умоў вэгетацыйнага пэрыяду—ад 83 да 150 *цнт.* каранёў. Пры малым ураджаі—лепш скарыстоўваць іх на выпас сьвіней, якія іх добра дастаюць у зямлі і ядуць ахвотна. Такім чынам магчыма мець вельмі каштоўны выпас для сьвіней да наступленьня марозаў. Акрамя гэтага, масу караньплодаў прыбіраюць, ачышчаюць ад зеляніны і рэжуць з канюшыннай атавай (пажадана некалькі завяўшай) і набіваюць сілас. Рэзаць перад сіласаваньнем гэту масу не абавязкова.

У мінулым годзе на Турскай с.-г. дасьледчай станцыі клалі яе зусім ня рэзанай і яна вельмі добра захоўвалася там да вясны 1929 г., калі і скормлена сьвіньням і каровам. Прыборка ўраджаю для сіласаваньня каштуе значна таней, так як ня прыходзіцца абразаць карані. Акрамя гэтага, захоўваюцца карані пажніўнага турнэпсу і бручкі ў буртах і паграбох кепска, як не дасьпеўшыя караньплоды. Магчыма іх, вядома, скарыстоўваць яшчэ ў зялёным выглядзе, але пры большай плошчы засеву ў тэрмін да большых маразоў поўнасьцю ня ўдасцца скарыстаць. Убіраць патрэбна ў найпазьнейшы тэрмін—перад вялікімі маразамі. Пры захоўваньні сіласаваньнем ня боязна і падмарозіць іх.

Тут-жа патрэбна сказаць некалькі слоў аб пажніўным пасеве пялюшкі і лубіну. Гэтыя расьліны менш вымагальны на глебу ў параўнаньні з караньплодамі і кукурузай, але тым ня менш, для іх неабходна таксама здавальняюча папярэдня ўгноеная глеба. Пасьля ворыва поля, якое трэба зрабіць як найхутчэй пасьля прыборкі галоўных расьлін (жыта, ячменю, вікі, канюшыны), поле барануецца і ўсьлед радавым сеўнікам высяваецца 180—200 клгр. добра ўсхожага лубіну і 180—200 клгр. пялюшкі ў мешанцы з аўсом у адносіне пялюшкі 120 клгр. і аўса 60 клгр. Усьлед за пасевам поле прыкатваецца катком, каб наблізіць вільгаць к насеньню, і гэтым яго заставіць хутчэй прарасьці. Пажніўны лубін і пажніўная пялюшка могуць у добрую цёплую, вільготную восень закрасаваць і даць ураджай да 85 *цнт.* на *га* сырой масы. Пялюшка нават лепш разьвіваецца і расьце чым лубін, і яна часьцей красуе да пачатку маразоў, чым лубін. Іх масу раіцца скарыстоўваць як на сіласаваны корм, так і на зялёнае ўгнаеньне. Пялюшку, вядома, магчыма і скарміць у зялёным выглядзе. Прымаючы пад увагу, што корм з пялюшкі і лубіну надта багаты бялковымі рэчамі, іх разводзіць як пажніўныя культуры трэба ў 1-ю чаргу, як на зялёнае ўгнаеньне, так і на сілас.

Як зялёнае ўгнаеньне лубін дзейнічае так, што мы атрымоўваем ад яго ўплыву прыбаўку ўраджаю бульбы ў 22 *цнт* і аўса 2,64 на 1 *га*, а ў якасьці сіласу мы атрымоўваем багаты бялкамі корм у значнай колькасьці.

І так, калгасы, саўгасы і бядняцка-серадняцкія гаспадаркі—скарыстоўвайце падарункі прыроды ў час астатку вэгетацыйнага пэрыяду пасьля прыборкі жыта, ячменю, віка-аўсяных і жытня-вікавых мешанак, пасевам пажніўных наступных культур: кукурузы на сілас і зялёны корм, турнэпсу шасьцітыднёвага, бручкі насаджанай расадай, грэчкі. Асаблівую ўвагу зьвярнеце на пажніўны лубін і пялюшка-аўсяную мешанку.

**М. Драздоў.**

## Больш увагі пчалярству.

У нас пчалярства, як дапаможная галіна сельскае гаспадаркі, знаходзіцца ў заняпадзе. Пчалярствам у нас мала цікавяцца таму, што мала хто ведае, які прыбытак даюць гаспадарцы і наколькі вялікае значэньне яно мае для ўсяе народнае гаспадаркі.

Пчала вырабляе каштоўны прадукт з нэктару кветак расьлін, якіх яна багата знаходзіць у прыродзе. Адна сям'я пчол пры правільным даглядзе, у сярэдніх прыродных умовах, у год можа даць ад 32 да 64, а часта і больш кілёграмаў мёду, ды да 1 кілёграму воску. Мёд і воск—гэтыя каштоўныя прадукты займаюць значнае месца ў нашым экспорце. Пры правільнай арганізацыі і шырокім разьвіцьці ў нас пчалярства, яно магло-б у гэтым сэнсе адыграць вялікую ролю. Але-ж карысьць ад пчол ня толькі ў гэтым. Пчала—найлепшы апыліцель. Пераносячы пылок з аднае кветкі на другую, пчолы гэтым значна ўплываюць на ўраджайнасьць садоў, гародаў, кармовых траў, сенажацяй і г. д. Нямецкі прафэсар Э. Цандэр давёў, што адна сям'я пчол у гэтым сэнсе дае карысьці ў 5 разоў больш, чым ад мёду і воску. Там, дзе многа пчол, ураджай такіх культур, як грэчка, кармавыя травы, садовыя і гародныя культуры падвышаецца ў некалькі разоў.

У Амэрыцы ёсьць гаспадаркі, якія ня толькі пашыраюць пчалярства самі, а нават запрашаюць пчаляроў іншых месц прывозіць пчол у іх сад на час цьвіценьня. За 80 і больш кілёмэтраў возяцца ў сады пчолы для гэтай мэты. Прычым, вядома, пчолы тут і мёду хутчэй назьбіраюць, і дрэвы апыляць, што зьменшыць на іх колькасьць пустацьвету.

Садова-гародным калгасам трэба ўлічыць усё гэта і прыняць захады да заводу, а дзе ўжо ёсьць пчолы, дык да павялічэньня іх ліку ў сваіх гаспадарках.

Пчалярства зьяўляецца аднэй з самых выгадных дапаможных галін сельскае гаспадаркі яшчэ і таму, што на яго арганізацыю патрэбны, параўнальна з даходнасьцю, вельмі нязначныя капітальныя затраты (завядзеньне пчол, вульляў і пчалярскіх прылад). Ні адна галіна сельскай гаспадаркі не аплачвае так высока працы як пчалярства. Для яснасьці возьмем такі прыклад. Пасека ў 25 сем'яў дасьць за лета 400 кілё мёду і 25 кілё воску (бярэм мінімальныя лічбы збору). За такой пасекай даглядае 1 чалавек і толькі часова выкарыстоўваецца дапаможная сіла (выстаўка пчол, адбор мёду), прычым на догляд за гэтакай пасекай патрабуецца ўсяго 5—7 гадзін у тыдзень, на працягу 4-х месяцаў. Калі ўзяць у сярэднім на тыдзень 6 рабочых гадзін, патрэбных для догляду за пасекай, дык за ўвесь сэзон такім чынам атрымаем 108 рабочых гадзін.

Прымаючы за нармальны рабочы дзень 8 гадзін, атрымаем 13½ рабочых дзён. Такім чынам 13½ рабочых дзён аплачаны 400 кілё мёду і 25 кілё воску. Пераведшы ўсё гэта на грошы, будзе зразумела, як высока аплачваецца праца па пчольніку.

У сучасны момант шпаркага росту калгасаў, пчалярства набывае асаблівае значэньне. Калгасныя формы сельскае гаспадаркі складаюць найлепшыя ўмовы для развіцьця пчалярства, без якога культурная калектыўная гаспадарка абыйсьціся ніяк ня можа.

Пры развіцьці ў калгасах пасеваў кармавых траў, пашырэньня ґародаў і садоў—пчалярства зьявіцца адным з верных сродкаў значнага ўзьняцьця ўраджаю гэтых культур. У калгасах-жа з садова-гародным напрамкам без пчалярства зусім немагчыма весьці гаспадарку. Прадукты-ж самага пчалярства будуць вельмі значнай крыніцай пры-



Пчаляры-ўдарнікі за працай. Калгас „Рассвет Победитель“.

бытковасьці ўсяе гаспадаркі. У калгасе знойдуцца рабочыя рукі, якія не надаюцца да больш цяжкай фізычнай працы, а ў пчалярстве яны могуць быць прыложаны з вялікім эфэктам. У пчалярстве могуць быць выкарыстаны сілы жанчын, старыкоў і нават дзяцей-падлеткаў. Праца па пчэльніку ня толькі ня шкодзіць здароўю маладога арганізму, а, наадварот,—вельмі добра спрыяе яго развіцьцю. Калі прыняць пад увагу, што ў калгасах, дзе маюцца свае сталярныя майстэрні і можа быць наладжана вельмі танная вытворчасьць вульляў, чаго ў індывідуальнай дробнай гаспадарцы быць ня можа, дык стане зусім зразумелым, што толькі пры калектывізацыі сельскае гаспадаркі пчалярства можа атрымаць самае шырокае развіцьцё.

Важнейшай перашкодай у справе развіцьця пчалярства ў нас зьяўляецца адсутнасьць у шырокіх колах працоўнага насельніцтва,

асабліва сельскага, ведаў аб гэтай галіне сельскае гаспадаркі. У нас вельмі мала пчаляроў-спэцыялістых, якіх можна было-б выкарыстаць у якасьці інструктароў і арганізатараў пчалярскае справы ў калгасах. На вялікі жаль, дагэтуль у нас амаль нічога ня зроблена ў напрамку запаўненьня гэтага прабелу. Масавая папулярная літаратура па пчалярству адсутнічае. Пэрыодычная сельска-гаспадарчая літаратура таксама не займаецца гэтым пытаньнем. Спэцыяльнай школы пчалярства, ці хаця-б кароткатэрміновых курсаў—няма. Няма цэнтральнай установы, якая-б клапацілася справай разьвіцьця пчалярства ў БССР. Трэба, каму сьлед, сур'ёзна падумаць аб тым, каб справу пчалярства зварухнуць з месца.

На днях вышла з друку кніжка Я. Струкоўскага „Пчалярства"—у двух кніжках. Гэтая кніжка зьяўляецца першай спробай даць на беларускай мове падручнік па пчалярству. Яна зможа быць выкарыстана ў сельскагаспадарчых школах, тэхнікумах і курсах і ў значнай меры запоўніць прабел у гэтай галіне, які дагэтуль востра адчуваецца ўсімі пчалярамі-практыкамі. Гэтая кніжка, на наш погляд, павінна быць як мага шырэй распаўсюджана. Кожная калгасная бібліятэка павінна мець памянёную кніжку.

Зразумела, што абмежавацца выданьнем кніжкі Я. Струкоўскага нельга, таму што яна ня можа замяніць сабою масавую папулярную і танную літаратуру па гэтаму пытаньню. Нашым выдавецкім арганізацыям трэба ў свае выдавецкія пляны ўключыць і выданьне такой літаратуры. Бо па розных галінах сельскае гаспадаркі мы ўжо штонебудзь маем, а па пчалярству ня маем нічога.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што адна літаратура ня зможа зрабіць больш значнага ўплыву на ўздым пчалярства без належных мерапрыемстваў і дапамогі з боку адпаведных нашых органаў улады і грамадзкіх арганізацый. У сучасны момант мы маем такое становішча, калі справай разьвіцьця пчалярства займаюцца выключна каапэрацыйныя пчалярскія таварыствы. Некаторыя з іх маюць значныя посьпехі. Так, напрыклад, Менскае Т-ва ўжо зараз мае досыць буйную гаспадарку „Струг", дзе досыць добра пастаўлены вопытна-паказальны пчальнік, на якім ёсьць каля 200 сем'яў пчол. Летась праведзены каротка-тэрміновыя курсы, якія мяркуюцца і на гэта лета.

Нам здаецца, што гэтым пытаньнем пара заняцца Калгасцэнтру, Белкалгассадсаюзу, ці якой іншай цэнтральнай установе, якая-б аб'яднала справу разьвіцьця пчалярства ў БССР. Ёсьць шмат такіх праблем, якія ня могуць быць вырашанымі паасобнымі каапэрацыйнымі Т-вамі. Напрыклад, арганізацыя масавай вытворчасьці вульляў, мёдагонак, вальцаў, вырабу штучнае вашчыны, пытаньне аб завозе ў БССР пчол, арганізацыя прафэсыйнай школы пчалярства, агульнае плянаваньне пчалярства і шэраг іншых вельмі важных момантаў, без якіх пчалярства ня можа ўзяць шырокі размах.

Першачарговай задачай зьяўляецца арганізацыя школы пчалярства. Базай для яе можа паслужыць гаспадарка „Струг", якая ўжо мае і пчол і патрэбнае абсталяваньне, некаторыя будынкі і гаспадарчую базу. Знаходзіцца яна ў некалькі кілёмэтрах ад Менску, што значна аблягчае абслугоўваньне яе сіламі спэцыялістых-выкладчыкаў. У першую чаргу школа павінна падрыхтаваць спэцыялістых пчаляроў для калгасаў. Гэтым будзе пакладзен моцны фундамант пад пчалярства ў БССР.

А. Якшэвіч.

# Што такое вэтмінімум і як яго праводзіць.

## Вэтмінімум у барацьбе з хваробамі жывёлы.

Вэтэрынарны мінімум—гэта прасьцейшыя вэтэрынарныя мерапрыемствы, якія павінны зьнізіць сьмяротнасьць жывёлы ад заразьлівых і незаразьлівых захворваньняў.

Кожны ведае, якою небясьпекаю ў народнай гаспадарцы зьяўляюцца хваробы жывёлы. Штогодна ад гэтых хвароб гіне сотні і тысячы галоў яе. Асабліва небясьпечны ў гэтай адносіне *заразьлівыя хваробы.*

Калі-б падлічыць усе тыя страты, якія наносяць народнай гаспадарцы хваробы жывёлы, то акажацца, што кожны год мы трацім ад гэтага больш 6 мільёнаў рублёў.

*Таму рашучая барацьба з заразьлівымі хваробамі жывёлы зьяўляецца важнейшай дзяржаўнай задачай.*

Гэту барацьбу асабліва важна шырока разгарнуць зараз, калі хутка растуць калгасы і саўгасы, калі арганізуюцца вялізарныя жывёлаводныя гаспадаркі, а дробныя і індывідуальныя гаспадаркі, у якіх жывёла трымалася ў вельмі кепскіх умовах, адміраюць. Зразумела, што чым горш пастаўлена справа ўтрыманьня жывёлы, тым больш мажлівасьці для яе захворваньня.

У паасобных сялянскіх гаспадарках вэтабслугоўваньне звадзілася, галоўным чынам, да спыненьня розных захвораваньняў. У калектыўнай-жа, абагуленай гаспадарцы ўся ўвага павінна быць зьвернута *на прадасьцярогу зьяўленьня хвароб.* Для гэтага неабходна правесьці прасьцейшыя папераджальныя меры ад зьяўленьня хвароб—*вэтэрынарны мінімум.*

## Якія меры прадугледжвае вэтэрынарны мінімум.

Кожны ведае, што ня прыбраны труп жывёлы распаўсюджвае заразу. Гэты труп заражае глебу і вадазборы. Калі выдзяленьні з трупу (кроў, сукравіца) высыхаюць, дык паветра разам з пылам заносіць заразу часам на далёкія адлегласьці. Мухі і інш. заядзі, садзячыся на труп, на лапках пераносяць потым заразу на здаровую жывёлу, а нярэдка і на людзей. Устаноўлена, што дажджавыя чарвякі могуць з зямлёю, на якой ляжаў труп жывёлы, разносіць заразу. Ёсьць шмат выпадкаў, калі адзін труп служыў прычынаю аграмаднага распаўсюджаньня заразы.

Таму *вэтэрынарны мінімум* гаворыць аб абавязковай пабудове ўсюды *скоцкіх могілак і аб перавозцы туды трупаў прапаўшай жывёлы на спэцыяльных павозках.*

Трупы жывёлін, прапаўшых ад заразьлівых хвароб, неабходна абавязкова закопваць у зямлю на глыбіню 2-х мэтраў і на спэцыяльна адведзеных зямельных вучастках, т. зв. „*скоцкіх могілках*". З трупаў забараняецца без дазволу вэтурача зьнімаць скуру, зьбіваць рогі, капыты, абразаць хвасты. Скоцкія могілкі павінны будавацца мясцовымі органамі ўлады (Сельсаветам) і за рахунак мясцовых сродкаў. Неабходна, каб усе сяляне дапамагалі ў пабудове могілак і сачылі за правільнай уборкай трупаў жывёлы.

## Ачышчайце заражаныя памяшканьні.

Пасьля ўборкі трупа паўшай жывёлы *неабходна ачысьціць памяшканьне ад гною і астачы корму і абяззаразіць яго па паказаньню вэтурача.* Для абеззаражаньня (дэзынфэкцыі) памяшканьня ўжываюцца розныя хэмічныя сродкі. Найбольш падыходзіць для гэтага паленая *вапна.* Ужываецца яна ў выглядзе *вапеннага малака.* Для гэтага зьмешваецца 1 літр сьвежа-згашанай вапны з 3-ма літрамі вады. Гэта мешаніна прыгодна і для пабелкі сьцен памяшканьня. Для звычайнай дэзынфэкцыі бяруць рошчыну з разьліку 1 літр вапны на 20 літр. вады.

Ужываюць яшчэ для дэзынфэкцыі і розныя іншыя сродкі, *як карболавую кіслату, крэолін, хлорную ваду і інш.*

Пасьля дэзынфэкцыі памяшканьне на працягу некалькіх дзён праветрываецца. У сучасны момант прымяняюць таксама дэзынфэкцыю заражаных памяшканьняў пры дапамозе атрутных газаў.

## Сачыце за жывёлай, ня пушчайце зноў купленую жывёлу адразу ў агульны статак.

У інтарэсах аховы стада ад заразьлівых хвароб сьледуе час-адчасу вытвараць агляд стада, выдзяляць падазроную жывёлу і паказваць яе вэтурачу. Яшчэ лепей, каб вэтурач або вэтфэльчар пэрыодычна аглядаў усё стада.

Вялікае значэньне мае недапушчэньне зноў купленай жывёлы ў агульны статак, к агульным кармушкам і к агульнаму вадапою на працягу 2-х тыдняў.

Выкананьне гэтага вельмі важна, справа ў тым, што заражаная жывёла ніколі адразу не захворвае. Звычайна праходзіць некаторы час, пакуль у такой заражанай жывёлы будуць выяўлены прыкметы хваробы. Аб гэтым патаёмным пэрыодзе хваробы неабходна заўсёды памятаць пры пакупцы жывёлы. Новая жывёла, прыведзеная ў гаспадарку, можа быць ужо заражанай. Калі яе адразу пусьціць у агульнае стада, то яна і сама захварэе і заразіць яшчэ іншую жывёлу.

Асабліва важна захоўваньне гэтага правіла ў саўгасах і калгасах. Там зьяўленьне заразьлівых хвароб і гібель усяго стада могуць нанесьці агромную страту дзяржаве.

Каб засьцерагчы занос заразы ў калектыўныя скотныя двары, трэба ўсю абагуленую жывёлу да пераводу яе ў калектыўны скотны двор трымаць асобна на працягу 2-х тыдняў.

*(Канец у наступным нумары).*

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

## Прынцыпы рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы.

Шпаркі тэмп перабудовы сельскае гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху, як сапраўдна адзінаму шляху, спрыяючаму ўзросту сельскае гаспадаркі і які сапраўды робіць уплыў на павялічэньне і палепшаньне яе таварнасьці,—патрабуе сталага і грунтоўнага свайго абслугоўваньня як у плянава-арганізацыйным, навукова-тэхнічным, гэтак і ў гаспадарча-бытавым напрамку. Гэта магчыма забясьпечыць выключна тады, калі структура сыстэм і іх праца будзе, як належа быць, прыстасавана да абслугоўваньня і ажыцьцяўленьня пастаўленых задач.

Сучасная структура, а тым больш праца сыстэм ні ў якім разе ня можа забясьпечыць належнае абслугоўваньне ўзросшых патрэб сельскае гаспадаркі.

У сучасны момант мы маем зусім слабую нізавую ячэйку, а з другога боку наяўнасьць лішкавых зьвеньняў, недастатковую разьмяжованасьць функцый пры лішніх надстройках, і вельмі заблытаныя ўзаемаадносіны цэнтраў сыстэм (Белкалгасцэнтр і цэнтры с.-г. каапэрацыі). Усё гэта гаворыць аб тым, *што выкананьне задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі патрабуе рацыяналізацыі структуры і асобна рацыяналізацыі працы ўстаноў.*

Зразумела, што з усяго комплексу сыстэм (праца якіх і іх структура знаходзілася паміж сабою зьвязанай) нельга выцягнуць адну сыстэму і рэарганізаваць яе. Нельга каранным чынам рэарганізаваць сыстэму с.-г. каапэрацыі, не зачапіўшы сыстэму зямельных органаў і іншых савецкіх устаноў.

Патрэбнасьць у рацыяналізацыі сыстэм адчувалася і раней. Да вырашэньня гэтага пытаньня прымаліся бязупынныя крокі. На працягу апошняга году мы маем ужо 2 выпадкі рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы. Але паколькі рашуча ня ставілася пытаньне аб каранной рэарганізацыі ўсіх сумежных з ёй сыстэм—з аднаго боку, а па-другое, паколькі не забясьпечана была, з рэарганізацыяй сыстэм, сапраўдная рэарганізацыя працы іх, дык у выніку мы маем неабходнасьць рабіць зноў рэарганізацыю.

*Трэба адзначыць, што ліквідацыя акруговых зьвеньняў зьяўляецца выключна першым крокам у каранной рэарганізацыі сыстэм. Другім крокам рэарганізацыі патрэбна лічыць у першую чаргу ўзмацненьне раённага зьвяна і кіруючых цэнтраў, за рахунак ліквідуемых акруговых зьвеньняў.*

## Працоўная дысцыпліна, дасканалы разьлік тэрмінаў работы, правільная расстаноўка сіл і аплата працы—аснова гаспадарчай дзейнасьці калгасу.

Зразумела, што адно павялічэньне ў раённым зьвяне кваліфікаваных працаўнікоў не зьявіцца ўзмацненьне яго як кіруючага і вытворча-абслугоўваючага цэнтру сельскае гаспадаркі. *Сапраўднае ўзмацненьне раённага зьвяна павінна быць вытварана ў значнай ступені за рахунак пашырэньня правоў і рацыяналізацыі працы раённых зьвеньняў.*

*Праца раённых зьвеньняў калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы ў асноўным павінна быць перанесена непасрэдна ў вытворчыя аб'яднаньні і ўся сыстэма аслабанена ад нявытворчых работ. Узмацненьне раёну ня ёсьць толькі павялічэньне апаратаў раённых установ, а павінна зьявіцца сапраўдным узмацненьнем агра-вытворчай працы яго непасрэдна на вытворчасьці* (калгас, першапачатковым т-ве, вёскі). Толькі так, а ня інакш мы сапраўды забясьпечым раённае зьвяно і апошняе сапраўды рацыяналізуе вьмест сваёй працы і стане тварам да вытворчасьці.

*Патрэбна ўсё тое, што затрымлівае ўвагу і сілы калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы непасрэдна ў раёне, як адміністрацыйным цэнтру, і шкодзіць сапраўднаму разгортваньню арганізацыйнай і агравытворчай яе працы на вытворчасьці, дык усё гэта павінна быць зьліквідавана і пракладзена на адпаведныя сыстэмы.*

Калі прыгледзіцца добра да сучаснай працы існуючага раённага зьвяна, дык трэба зусім адчынена і сумленна сказаць, што ўся ўвага раённага зьвяна ўпіраецца не ў непасрэдны вытворчы бок па абслугоўваньню запатрабаваньняў сельскае гаспадаркі, а ў гандлёвыя апэрацыі. Агра-вытворчы-ж бок раённых зьвеньняў альбо зусім адсутнічае, альбо ён вельмі малы.

Пры рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы неабходна:

1) *Збыта-снабжэнчаскія функцыі раённых зьвеньняў калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы праз сваі склады павінны быць зьнішчаны і складзкая гаспадарка з разьлікамі як па снабжэньню, гэтак і па збыту—перанесена па адпаведным сыстэмам—трымацелям гэтых тавараў, прадуктаў і сродкаў вытворчасьці.*

2) *Аб'ём насенна-снабжэнчаскіх апэрацый павінен быць значна паменшан і даведзен выключна да аб'ёму насенна-снабжэньня:* а) *па зернавым і іншым расьлінам выключна да патрэбнай колькасьці высокагатунковага насеньня для мэт сортазьмены;* б) *па насеньню, вытвар якога павінен быць сканцэнтраван (гародніны, караньплодаў, лугавых траў)—да 100 проц. забесьпячэньня патрэб раёну.*

3) *Памяншэньне насеннаснабжэнчаскіх апэрацый павінна быць вытварана за рахунак агравытворчага абслугоўваньня насельніцтва ў парадку арганізацыі насенных і страхавых фондаў, з ліку ўраджаю зярна папярэдняга году і за рахунак застаўленьня насенных плянтацый з ліку фуражных плошчаў.*

4) *Вытвар насеньня* (як высокагатунковага, гэтак і дэфіцытнага) *павінен быць арганізаван у спэцыялізаванай сыстэме „Насенна-калгассаюзу", які павінен зьявіцца адзіным трымацелем усяго насеннага матар'ялу ў парадку назеннавытвару насеннаснабжэньня ўсяго калгасна-каапэрацыйнага сэктару.*

5) *Снабжэнчаскія функцыі па ўгнаеньню, машынам, будаўнічым матар'ялам і арганізацыі ў раёне павышанага тыпу рамонтных майстэрняў павінны быць сканцэнтраваны зьверху і да нізу ў адной снабжэнчаскай арганізацыі—Белсельгасснабу* (па прыкладу крэдытнай сеткі).

6) *Прыёмку зернавой і фуражнай закантрактованай прадукцыі на склады і захаваньне яе, пераапрацоўку—патрэбна перадаць непасрэднаму трымацелю хлеба-фуражу—Саюзхлебу* (яго складзкай раённай секці, альбо яго галіне), *прымусіўшы апошняга, стала заняцца пераапрацоўкай прадуктаў хлеба-фуражу і вырабам патрэбнай прадукцыі моцных кармоў* (*атрубей і г. д.*).

7) *Існуючыя насенныя фонды К. С. У. рэарганізаваць у агульныя насенныя фонды, падпарадкаваныя непасрэдна аб'яднаньням і калгасна-каапэрацыйным сыстэмам.*

8) *Арганізаваць рэгуліраваньне снабжэньня хлеба-фуражом і фуражным зярном, шляхам арганізацыі хлеба-фуражных фондаў непасрэдна ў аб'яднаньнях сыстэм у першую чаргу за рахунак свайго ўраджаю.*

9) *Усю ўвагу раённага зьвяна перанесьці ў вытворчае аб'яднаньне* (калгас, першапачатковае аб'яднаньне, разгарнуўшы працу па каапэрыраваньню насельніцтва), *рэарганізаваўшы яго ў сапраўдна агравытворчы цэнтр, зьвязаўшы гэтым яго непасрэдна з вытворчасьцю.*

10) *Вызваліць раённае зьвяно ад усіх работ, ня маючых дачыненьня да асноўнай вытворчай яго працы.*

11) *Арганізаваць працу раённага зьвяна на калгас, праз калгас—на вытворчае аб'яднаньне і праз калгас вытворчае аб'яднаньне—на некаапэрыраваны сэктар.*

12) *Унесьці яскравасьць у працу аграпэрсаналу земорганаў і калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы шляхам разьмежаваньня функцый; за раённым зямельным зьвяном пакінуць выключна функцыі плянаваньня, рэгуліраваньня і кантраліраваньня. Патрэбна перадаць калгасна-каапэрацыйнай сыстэме ўвесь аграномічны пэрсанал* (за выключэньнем працаўнікоў, патрэбных для РВК, у адпаведнасьці з паказанымі функцыямі).

13) *Рашуча змагацца за тое, каб складаньне плянаў і заявак* (на падставе агульных кантрольных лічбаў) *раённае зьвяно само рабіла на падставе ўсёй сьвядомасьці с.-г. раёну і ў парадку цьвёрдых заказаў, выяўленых шляхам агравытворчага абслугоўваньня аб'яднаньняў.*

Калі прыглядзецца да сельскае гаспадаркі БССР (па глебава-кліматычным умовам інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, аграрна-перанасялёнасьці, звароту хлеба-фуражу і інш.), дык трэба прысьці к вываду, што асноўны напрамак сельскае гаспадаркі БССР павінен быць жывёлагадоўчы. Гэты напрамак краіны ўсімі прызнаецца. Усе лічуць, што астатнія галіны сельскае гаспадаркі (з якіх больш-менш зьяўляюцца таварнымі галінамі і патрабуюць спэцыялізацыі сыстэмы—гэта: садова-гародні, ільняна-бульбяны) павінны быць падпарадкаваны асноўнаму напрамку—жывёлагадоўчаму (мясамалочнаму, сьвінаводнаму і птушкаводнаму). Але, калі мы прааналізуем як аб'ём ранейшых работ, аб'ём мерапрыемстваў, наліччa кадраў, структуру сыстэм і г. д.,—дык мы ўбачым зусім іншы малюнак. Дзе і як вядуць дасьледчыя ўстановы распрацоўку пытаньняў па жывёлагадоўлі?

Дзе кадры жывёлагадоўчага напрамку? Як гэтыя кадры рыхтуюцца? Як высоўвалася праблема жыелагадоўлі? Ці маецца адбітак у раёне шпаркіх агравытворчых работ па жывёлагадоўлі? Наколькі сапраўды паляводзтва, лугаводзтва забясьпечваюць кармовую базу, як асяродзьдзе для стварэньня належнага разьвіцьця жывёлагадоўлі? Чым усе сыстэмы займаюцца? Наколькі вэтэрынарыя мае свае разьвіцьцё і спрыяючыя ўмовы для сваёй працы? Ці маецца стала аргані-

заваны асяродак—арганізацыя па вытвару насеньня для кармовай базы—без чаго немагчыма палепшыць нашы кармавыя рэсурсы і г. д.

Трэба сказаць, што робіцца і зроблена ня столькі, колькі патрэбна і мажліва было зрабіць.

Возьмем, напрыклад, пабудову структуры калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы ў раёне. Якое зьвяно зьяўляецца вядучым? На сёнешні дзень асноўным раённым зьвяном зьяўляецца так званае „Паляводчаскае“.

Як-жа мяркуецца разьбіць раёны па вядучым галінам? Прыблізна так: палову раёнаў з паляводчай вядучай галіной, а палову з жывёлагадоўчай. Ці правідлова гэта? Не. *Па маёй думцы, вядучым раённым зьвяном павінен быць у БССР адзіны і з жывёлагадоўчым напрамкам.*

*Выходзячы з паказанага, патрэбна агульную паляводчаскую сыстэму „Белпаляводсаюзу“ зьліквідаваць і каранным чынам яе рэарганізаваць.* Ці пагоршыцца гэтым справа паляводзтва? Не. Арганізацыя паляводзтва, пры забясьпечаньні выкананьня паказаных мною раней прынцыпаў,—не пагоршыцца, а нават палепшыцца. Дрэнны той арганізатар жывёлагадоўчага напрамку, які-б не забясьпечыў належную арганізацыю паляводзтва, лугаводзтва — як аснову кармавой базы. Толькі забясьпечыўшы кармавую базу, магчыма павялічыць жывёлу, а павялічыўшы жывёлу—павялічыцца баланс угнаеньня і гэтым забясьпечыцца ўздым ураджайнасьці.

*Сыстэма Белпаляводсаюзу павінна быць рэарганізавана ў дзьве сыстэмы—гэта: сыстэму Насеннаводкалгассаюзу, якая павінна забясьпечыць вытвар насеньня, як асноўнага сродка вытворчасьці і Бульбяна-ільняна-каноплевую сыстэму з арганізацыяй тэхнічнай перапрацоўкі сыравіны. Апроч гэтых сыстэм, павінна быць пакінута і ўзмоцнена сыстэма Садова-гародняга Саюзу.*

Усе паказаныя тры спэцыялізаваныя сыстэмы (Насенсаюз, Бульбяна-ільняны і Садова-гародні) павінны працу сваю базіраваць на спэцыялізаванай сетцы гаспадарак праз раённага ўпаўнаважанага, альбо праз кустовае сваё аб‘яднаньне.

Апошняе, на чым я хацеў-бы застанавіцца—гэта на арганізацыйнай ўвязцы цэнтраў паміж сабой. Па маёй думцы, патрэбна было-б пакінуць, як зьвязваючае зьвяно ўсіх калгасна-каапэрацыйных сыстэм—Белкалгасцэнтр. На Белкалгасцэнтр ускласьці, апроч агульных функцый па ўвязцы, яшчэ і сталую прапрацоўку і кіраваньне пытаньнямі калгаснага руху і пытаньне арганізацыйнага і прававога зьместу па ўсім калгасна-каапэрацыйным сыстэмам.

**Ад рэдакцыі:** Просьба да калгасна-каапэрацыйнага актыву і зямельных работнікаў выказацца на старонках часопісу „Шляхі калектывізацыі“ аб рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы.




## Фосфарытаваньне глебы.

Глебы БССР, як і значная частка глебы СССР, у першую чаргу адчуваюць фосфарны голад. Гэта значыць, што з трох асноўных груп мінэральных угнаеньняў—азоту, фосфару і калію—па сваім значэньні высоўваюцца на першае месца ў нас угнаеньні фосфарна-кіслыя, вельмі добрым прадстаўнiком якіх зьяўляецца супэрфосфат.

Але-ж, дзякуючы недастатковаму разьвіццю хэмічнай прамысловасьці, вытворчасьць супэрфосфату ня можа нават задаволіць патрэб угнаеньня пад каштоўныя тэхнічныя культуры. З другога боку, прыродныя запасы фосфарытаў у большасьці выпадкаў з невялікім про-

цантам фосфарнай кіслаты, што перашкаджае здабываньню і выпрацоўцы з іх супэрфасфату.

А таму, ня гледзячы на вялікія посьпехі ў галіне выпрацоўкі фосфарных угнаеньняў (Галоўхімтрэст намячае на працягу бліжэйшых 5 год выпусьціць да 3.300.000 тон растворных фасфатаў), мы пакульшто вымушаны задавальняць фосфатны голад ужываньнем фосфарытнай мукі.

Фосфарытная мука зараз зьяўляецца самым даступным для шырокага ўжываньня фосфарна-кіслым угнаеньнем, якое ў той-жа час дае значнае падвышэньне ўраджаю.

Шматгадовымі досьледамі дасьледчых станцый і, у першую чаргу, Смаленскай (Энгельгардаўскай) напэўна даведзена, што 16 кілё фосфарытнай мукі дае прыбаўку ва ўраджаях да 10 кілё, і што пры затраце на ўгнаеньне 30 руб. можна прыкладна атрымаць прыбытку ва ўраджаі да 70 руб.

Паводле даных Д. Н. Пранішнікава, найбольшы эфэкт ад фосфарытнай мукі атрымліваецца на спустошаных глебах, на якіх прыбаўка ва ўраджаі зярна дасягае 40 пуд. пры ўкладаньні 30 пуд. фосфарытнай мукі на *га*. Апрача гэтага, вытворчасьць фосфарытнай мукі вельмі простая і не патрабуе вялікіх затрат, якія зьвязаны з вытворчасьцю супэрфосфату.

Усё гэта і выклікае той значны попыт з боку сельскай гаспадаркі на фосфарытную муку, акі назіраецца ў апошні час.

Калі-б угнойваць фосфарытнай мукой толькі плошчу азімых расьлін, дык у нас на БССР было-б патрэбна фосфарытнай мукі круглым лікам ня меней 700 тысяч тон з разьліку 0,66 т. на *га*.

Бязумоўна, мы яшчэ далёкі ад таго, каб задаволіць нашыя патрэбы ў фосфарытах поўнасьцю, але задачу гэтую трэба вырашаць як найхутчэй.

Таму і будуецца цэлы шэраг фосфарытных установак для перамолкі значнага ліку фосфарытаў (Мсьціслаўль, Клімавічы, Крычаў), якія трэба выкарыстаць правільна і поўнасьцю. Па гэтай прычыне некалькі слоў варта сказаць аб уласьцівасьцях фосфарытнай мукі, як угнаеньня.

Яна адрозьніваецца ад іншых фосфатаў, напр. супэрфосфату, тым, што не раствараецца ў вадзе і фосфарная кіслата яе амаль недаступна расьліне, якая, як вядома, усе спажыўныя матэрыі з глебы бярэ ў выглядзе воднага раствору.

Але-ж ёсьць пэўныя прычыны, якія даюць мажлівасьць выкарыстаць у поўнай меры фосфарытную муку як угнаеньне. Галоўныя з іх наступныя:

1) Кіслотнасьць глебы, якая можа даць, або па прычыне ненасычанасьці асновамі так званага паглынальнага комплексу глеб, або па прычыне розных біолёгічных процэсаў у глебе (бактэрыі, якія зьвязваюць азот у азоцістую і азотную кіслоты і інш.).

2) Раскладаньне фосфарыту ўгнаеньнямі, з якімі ён разам кладзецца ў глебу, напр., сярчана-кіслы амоні, торф.

3) Ступень дробнасьці памолу фосфарытнай мукі.

Ня будзем за недахопам месца спыняцца на сучасным вучэньні аб кіслотнасьці глеб, вызначэньне якое патрабуе і пэўнаї падрыхтоўкі і абсталяваньня. Адзначым толькі, што чым большая кіслотнасьць

глебы, тым больш растворнымі робяцца фосфарыты, тым лягчэй яны прысвайваюцца расьлінамі.

З угнаеньняў, якія ўзмацняюць раскладаньне фосфарытнай мукі, трэба адзначыць торф. Цэлым шэрагам досьледаў было ўстаноўлена вельмі добрае дзеяньне торфу на раскладаньне фосфарыту і значны лік дасьледчыкаў адзначае, што чым болей будзе торфу адносна фосфарыту, тым болей фосфарнай кіслаты фосфарыту будзе пераходзіць



**У Крычаве (БССР) закончана абсталяваньне фосфарытнага заводу. Завод пушчан у маі 1930 г.**

**На здымку: Укладка печы для лёкамабіля.**

у растворную форму. Гэтыя факты павінны быць вядомы нашаму бяднякцка-серадняцкаму сялянству і ў калгасах і па-за калгасамі, каб скарыстаць вялікія запасы торфу БССР, які ў камбінацыі з фосфарытнай мукой дасьць найлепшыя вынікі з боку прысваеньня расьлінамі фосфарнай кіслаты і ў той-жа час торф сам зьяўляецца крыніцай другой групы ўгнаеньня—азоту.

Значэньне ступені памолу на прысвойнасьць фосфарытнай мукі можна ўявіць такім чынам. Вядома, што растварэньне матэрыі адбіваецца на паверхні яе датыканьня з растворнікамі—чым болей гэтая паверхня, тым болей матэрыі раствараецца. Кожнаму вядома, што цукровы пясок лягчэй раствараецца, чым кавалкі цукру.

Калі-ж мы возьмем кавалак фосфарыту памерамі ў 1 кб. *см*, дык уся паверхня яго будзе 6 кв. *см*, пры раздрабленьні яго на 10 кубікаў у 1 *мм* паверхня павялічваецца ў 100 раз (г. зн. да 600 кв. саж.). Значыцца, павялічыцца і растворанасьць фосфарыту. За межамі робіцца такі фосфат, які прадстаўляе сабой драбнюткі фосфарытны пыл; ён завецца „плаўзон-колёід-фосфат“. Яшчэ адна важная практычная заўвага. Пры фосфарытаваньні ня раіцца класьці фосфарыт непасрэдна пасьля вапнаваньня або ў часе вапнаваньня глебы, бо ня будзе карысьці ад такога фосфарытаваньня. Таксама ня варта вапнаваць тых палёў, якія нядаўна зафосфарытаваны.

У надыходзячую асеньнюю пасеўную кампанію трэба зьвярнуць максымальную ўвагу на скарыстаньне ўсіх запасаў фосфарытнай мукі. З другога боку трэба фарсіраваць размолку фосфарытаў, каб гэтыя запасы сапраўды былі створаны. У пэрспэктыве трэба мецъ суцэльнае фосфарызаваньне глеб БССР, бо яно не зьяўляецца штучным мерапрыемствам, якое ўзята з паветра, а зьяўляецца тою неабходнасьцю, без якое цяжка падняць нашыя ўраджаі на значную вышыню ў агульнай масе дробных сялянскіх гаспадарак. Дробная сялянская вытворчасьць і тут зьяўляецца перашкодай, бо толькі суцэльная калектывізацыя дасьць мажлівасьць правесьці суцэльнае фосфарызаваньне—суцэльнае зьнішчэньне фосфатнага голаду зямлі.

**А. Вечар.**

## Калгасьнікі! Дапамагаючы бедняку і серадняку, рыхтуйце новыя папаўненьні вашых шэрагаў.

# Дрэнаваньне павялічвае ўраджай

Кліматычныя ўмовы ільнаводнай часткі СССР спрыяюць разьвядзеньню ільну, траў, караньплодаў і так званага шэрага збожжа і часткаю азімай пшаніцы. Але здараюцца гады з лішкам вопадзяй, якія няспрыяюча адбіваюцца на ўраджаі, выклікаюць вялізарны недабор прадуктаў гаспадаркі, зьніжаюць і зводзяць на нішто цяжкую працу. Такімі гадамі да апошняга часу былі ва ўсёй Заходняй частцы ільнаводнай паласы СССР—1927 і 1928 г. г.

Для паўночных і паўночна-ўсходніх вобласьцяй Саюзу, дзе часта здараюцца навальныя бядоты, сухмень, нашымі навуковымі ўстановамі распрацавана так званае „сухое земляробства", запазычанае ў нас Паўн.-Амэр. Злуч. Штатамі.

На жаль, да апошняга часу амаль нічога ня зроблена па распрацоўцы сыстэмы „мокрага земляробства", ня гледзячы на тое, што першы арганізатар дасьледчай справы ў Расіі, праф. Костычаў, лічыў гэту справу вельмі адказнай ва ўсёй рабоце, якая была намечана для правядзеньня ў паласе „мокрага земляробства" — Энгельгардаўскай с.-г. дасьледчай станцыі.

Гэта яшчэ дзіўна і таму, што мэліаратарамі сумесна з культуртэхнікамі дасягнуты, трэба праўду сказаць, добрыя вынікі ў справе мэліарацыі, культываваньня і асваеньня бросавых зямель—балот, што пацьвярджаецца як работамі шэрагу балотных дасьледчых станцый Саюзу (Ноўгарад, Менск, Яхрома), так і практычнай мэліярацыйнай работай. Чамусьці з поля зроку мэліаратараў выпалі аграмадныя, маючыя першараднае значэньне, масывы мінэральных глеб, якія служаць асноўнай гаспадарчай базай насельніцтва.

Мабыць, мэліаратараў менш цікавяць мінэральныя глебы, чымся балотныя масывы і відаць навуковыя асновы асушкі мінэральных глеб яшчэ не распрацаваны як сьлед. Сама насельнасьць, зразумеўшы карысьць асушкі поля, практычна займаецца, карыстаючыся досыць саматужным спосабам,—адчыненыя канавы, баразнаваньне пасеваў,—якія ў звычайныя гады даюць ня кепскія вынікі, але ў гады зьлішку вільгаці не даюць патрэбнага гаспадарчага эфэкту.

Відавочна, тут неабходна больш паглыбленая ўвага калектыву для рэгуляваньня воднай стыхіі.

У нядаўна вышаўшай з друку рабоце агранома Фельдмана, 38 выпуск Заходняй вобласьці с.-г. дасьледчай станцыі, апублікаваны вельмі цікавы матар'ял аб уплыве зачыненага трубчатага дрэнажу на ўраджай розных культур на аснове шматгадовых досьледаў, праведзеных на Энгельгардаўскай с.-г. дасьледчай станцыі. Дрэнаж быў закладзены ў 1911 г. Досьлед дрэнажу праводзіўся на трохполцы і на розных папарах.

Жыта было ўлічана на працягу 5 год.

У сярэднім за 5 год жыта на недрэнаваным вучастку дало 16,1 *цнт* на *га*, надрэнаваным—13 *цнт*, г. зн. дрэнаж павялічыў ураджай зерня жыта на 3,1 *цнт* на *га* ці на 23 проц.

Ураджай аўса ад дрэнажу павялічыўся на 8,3 проц.

У 1927 г. на дрэнаваным і недрэнаваным вучастках закладзены досьлед па вывучэньні розных відаў занятага папару і ўлічаны ўраджай займаючых папар расьлін, а ў 1928 г. улічана жыта па занятым папары.

Як вядома, у вэгетацыйны пэрыод 1927 г. было вельмі шмат вопадзяй, зьлішак дажджу значна зьнізіў ураджай усіх займаючых папар

расьлін, прычым на недрэнаваным вучастку корань-клубня-плоды і лён у папары далі мізэрны ўраджай. Бручкі было атрымана ўсяго 6,6 д. *цнт* на *га*, бульбы—17,7 д. *цнт* на *га*, насеньня ільну—1,2 д. *цнт* на *га*, валакна—1,3 д. *цнт*, г. зн. ураджай нават не вярнуў насеньня.

На дрэнаваным вучастку атрымана:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бручкі . . . . . . . | 67,3 *цнт.* | Насеньня ільну . . . . | 4,2 *цнт.* |
| Бульбы . . . . . . . | 62,4 „ | Валакна . . . . . . . . | 4,5 „ |

Дрэнаж даў вялізарнае павялічэньне ўраджаю, як, напрыклад бручкі—60,7 д. *цнт* на *га* ці 905,97 проц., бульбы 44,7 д. *цнт* ці 252,54 проц., і, нарэшце, ільну—3 д. *цнт* ці 250 проц. насеньня і 3,2 д. *цнт* або 246,15 проц. валакна.

Ураджай жыта па ўсіх папарах на недранаваным вучастку раўняецца 11,28 дв. *цнт* на *га*, а з дрэнаванага вучастку атрымана 12,7 д. *цнт* на *га*, г. зн. дрэнаж павялічыў ураджай жыта на 1,42 *цнт* на *га* ці на 12,6 проц. Цікава адзначыць, што ўраджай жыта па занятым вікавым папары на дрэнаваным вучастку раўняецца 15 д. *цнт* на 4 д. *цнт* або на 36,3 проц. перавысіў ураджай жыта па чорнаму папару на недрэнаваным вучастку.

Значыцца, ва ўмовах Заходняй і Паўночна-Заходняй часьці ільнаводнай паласы СССР дрэнаж зьяўляецца магутным фактарам, які значна павялічвае ў звычайныя гады ўраджаі, а ў гады са значнымі вопадзямі выратоўвае ўраджаі ільна і жыта ад вымаканьня і трымае іх на нормальным роўні.

Дрэнаж страхуе ад зьнішчэньня ўраджай, дапамагае яго ўстойлівасьці, а значыцца, стварае спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця гаспадаркі.

Таму: 1) там, дзе пытаньне аб дрэнажы высьветлена, неабходна тэрмінова пачаць дрэнаваньне палёў, 2) у сувязі з арганізацыяй калгасаў і саўгасаў у ільнаводнай паласе Савецкага Саюзу, арганізатарам гэтых гаспадарак неабходна будзе зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на гэта карэннае палепшаньне палёў, ня пужаючыся асабліва буйных страт, памятаючы, што дрэнаж зьяўляецца карэнным палепшаньнем угодзьдзяў, дзеяньне якога адчуваецца на працягу шмат гадоў. Па даных Энгельгардаўскай дасьледчай станцыі ўплыў дрэнажу можна адзначыць на працягу 18 год з дня яго закладкі.

2) Арганізацыя буйных калгасаў і саўгасаў стварае вельмі спрыяючыя прадпасылкі для дрэнаваньня палёў, чаго нельга была зрабіць ва ўмовах індывідуальнай гаспадаркі.

3) Спэцыялістым-мэліаратарам трэба ўсутыч падыйсьці да праблемы мэліараваньня мінэральных глебаў, увязаўшы сваю дасьледчую работу з с.-г. дасьледчымі ўстановамі;

4) С.-г. дасьледчыя ўстановы ў раёнах занадта ўвільготненых, г. зн. там, дзе пытаньне дрэнаваньня палёў ня высьветлена, павінны ў цэнтры сваёй праграмы паставіць пытаньне аб барацьбе з вільгацьцю, уключаючы і дрэнаж, без чаго нельга стварыць устойлівую ільняную гаспадарку.

5) Кіраўнікі і работнікі гаспадарак, палі якіх дрэнаваны, аграномы і мэліаратары практычна знаёмыя з рэзультатамі дрэнаваньня мінэральных глеб, павінны ў бліжэйшы час шырока асьвятліць гэта важнае гаспадарчае пытаньне на старонках друку.

Аграном Мэйерсон.

# ПРА РЫБНУЮ ГАСПАДАРКУ




Шлюз, які будуецца ў прудавым рыбгасе „Чырвоная Зорка".

## Пяцігадовы плян разьвіцьця рыбнай прамысловасьці па БССР*].

У склад вадазбораў Беларусі ўваходзіць 2.368 вазёр, агульнай плошчай 82.500 *га*, 32.273 *км* рэк і 243 сажалкі, агульнаю плошчаю 1.800 *га*.

Вазёры па сваёй рыбагаспадарчай каштоўнасьці падзяляюцца на 3 групы. Да першай групы належаць вазёры квітнеючага ўзросту, якія па ўмовам арганічнага жыцьця больш прыдатны для расплоджваньня каштоўных прамысловых рыб Беларусі. Вазёр першай групы ёсьць каля 17.000 *га*. Да другой групы належаць вазёры, якія займаюць у адносінах разьвіцьця арганічнага жыцьця прамежную ступень паміж вазёрамі першай групы і вазёрамі старымі па ўзросту. У гэтых вазёрах адсутнічаюць ласасёвыя рыбы. Вазёр другой групы каля 35.000 *га*. Трэцюю групу складаюць вазёры, якія набліжаюцца да стадыі ўміраньня і нагадваюць сажалкі. Іх ёсьць каля 33.000 *га*. Амаль усе вазёры Беларусі ледніковага паходжаньня і маюць досыць моцную праточнасьць.

Штучныя сажалкі робяцца на балотах (нізінных, пераходных і мохавых) шляхам перагароды нізін грэблямі і шлюзаваньнем.

Балоты да пабудовы сажалак давалі даходу 18 руб. 50 кап. з *га*. Пры выкарыстаньні іх пад сажалкі даходнасьць павялічылася да 55 руб.

---

*) Складзена на падставе 5-гадовага пляну, прынятага Саюзным аб'яднаньнем Рыбнай прамысловасьці „Саюзрыбы".

Асноўным гатункам рыбы ў сажалкавай гаспадарцы зьяўляецца карп. Гаспадарка вядзецца з 1-гадовым зваротам і базуецца на натуральным і штучным корме.

**Плошчы вадазбораў і гаспадаркі.** На працягу пяцігодкі намячаецца арганізаваць яшчэ чатыры вазёрна-сажалкавых гаспадаркі, што з ўжо арганізаванымі 2-ма („Чырвоная Зорка“ ў Жыткавіцкім раёне, Мазырскай акругі і Наўліцкае ў Ветрынскім раёне, Полацкай акругі) будзе складаць 6 гаспадарак, пры чым сыстэма вазёр у іх будзе нязначная, але за тое сажалкавыя гаспадаркі будуць даведзены да 23-х. З гэтых 23 сажалкавых гаспадарак 13 пачнуць працу толькі ў 32 годзе, бо для арганізацыі гэтых гаспадарак неабходна правесьці падрыхтоўчыя гідратэхнічныя работы.



Лоўля рыбы на прудах.

У наступныя гады сажалкавая гаспадарка калгасаў і саўгасаў (нагульныя) на шмат перавысяць колькасна плошчу Белрыбы. Прыродныя ўмовы Беларусі дазваляюць арганізоўваць спэцыяльныя рыбна-сажалкавыя калгасы.

2 рыба-заводы, якія маюцца, будуць реарганізаваны ў адзін. Ён будзе абсталяваны для выросьліваньня ікры з каштоўных парод рыб (сіга, рапушкі і інш.).

Саўгас пры рыбнай гаспадарцы „Чырвоная Зорка“ на працягу пяцігодкі паступова будзе рэарганізаваны ў завод для разьвядзеньня розных гатункаў кармоў для выросьліваньня ў сажалках рыбы.

Апрача разьвіцьця сажалкавых гаспадарак, асабліва ў першыя гады, калі прадукцыя культурных відаў рыбы (на штучных вадазборах), будзе нязначная, важнае значэньне набывае правільная эксплёатацыя вадазбораў.

Працаваць на гэтых вадазборах будуць арцелі прамкаапэрацыі, якіх па арыентыровачных падліках, к канцу пяцігодкі, будзе каля 200 з агульным лікам да 4.000 членаў арцеляй, пры адначасовай арганізацыі спэцыяльных рыбацкіх і рыбна-сажалкавых калгасаў.

Такое значнае пашырэньне справы ставіць ужо ў гэтым годзе задачу аб арганізацыі спэцыяльнай лавецкай каапэрацыі. Да гэтага часу абслужваньне гэтых арцеляй, згодна пастановы Экана ад 11/I і 21/III г. г., ускладзена на кустпрамкаапэрацыю. Вынікі малога пэрыяду арганізацыі і абслужваньня рыбацкіх арцеляй даказваюць, што унівэрсальная кустпрамкаапэрацыя з задачай вельмі слаба спраўляецца. Кіраўніцтва, кантроль і ўсе мерапрыемствы па мэліорацыі і засяленьню вады рыбай па прыродных вадазборах, ажыцьцяўляецца гаспадаркамі Белрыбы на мясцох, якіх у 1930 г. ёсьць 14 і якія на працягу пяцігодкі будуць па магчымасьці ўзбуйняцца.

**Прадукцыя.** Колькасьць рыбы, якая будзе вылаўлена з прыродных вадазбораў відаць з наступнай табліцы:

| ГАДЫ | Кольк. плошчы вазёр пад эксплёатацыяй у *га* | Сярэдні ўлоў з *га* ў кілёграмах | Колькасьць улову | Кольк. плошчы рэк пад эксплёатацыяй | Сярэдні ўлоў з кілэметр. цэнтнэр. | Усяго ўлову па рэчкам цэнтнэр. | Усяго ўлову дзікай рыбы цнт |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1930 . . . | 75.000 | 25 | 18.750 | 3.110 | 1 | 3.110 | 28.860 |
| 1931 . . . | 78.000 | 25 | 19.500 | 6.500 | 1 | 6.500 | 26.000 |
| 1932 . . . | 82.000 | 30 | 24.600 | 14.000 | 750 | 10.500 | 35 100 |
| 1933 . . . | 82.000 | 35 | 28.700 | 32.000 | 650 | 20.800 | 49.500 |

Вестак аб колькасьці рыбы, якая была вылаўлена ў мінулыя гады— няма, бо да гэтага часу большасьць вадазбораў аддавалася ў арэнду прыватнікам, ад якіх нельга было атрымаць вестак і якія былі зацікаўлены выключна ў грабежніцкім улове.

Павялічэньне прадукцыйнасьці вазёр, паказанае ў 32—33 г.г., тлумачыцца эфэктыўнасьцю мерапрыемстваў па мэліорацыі і рыбазасяленьню, якое ўжо праводзіцца з гэтага году.

Памяншэньне-ж прадукцыйнасьці па рэчкам тлумачыцца тым, што ў эксплёатацыю будуць уключаны і дробныя рэчкі з нязначнай прадукцыйнасьцю.

Усяго за 5 год будзе па БССР мэліаравана вазёр—37.459 *га*, рэк— 11.685 *км*; у процантах гэта будзе так: 50 проц. вазёр і 37 проц. рэк будзе мэліаравана за пяць год.

Уся навукова-дасьледчая работа як палявая, так і лябараторная будзе праводзіцца Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя Леніна.

Прадукцыя пасадачнага матар'ялу вылічана з налічча плошчы, якая будзе занята пад сажалкамі для вырасьліваньня рыбы, што і відаць з наступнай табліцы (гл. табл. на стар. 35).

Прадукцыя пасадачнага матар'ялу на 1930 г. вылічана з выраснай плошчы, якая маецца, пры чым дзякуючы адсутнасьці мэліарацыі гэтай плошчы, будзе пасаджана 3.500 малькоў на *га*, але за тое ў наступныя гады мяркуецца атрымаць больш-менш нормальную колькасьць сяголетак. Атрыманьне такой вялікай колькасьці сяголетак

| ГАДЫ | Усяго плошчы (для вырасьл.) | З іх працуе | Колькасьць сяголетак з *га* | Усяго пасадачнага матар'ялу (у тыс. шт.) | 15 проц. адходу (у тыс. шт.) | Застаецца на вясну (у тыс. шт.) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1930 . | 894 | 834 | 3.500 | 2.919 | 0,435 | 2.484 |
| 1931 . | 1.102 | 1.102 | 6.600 | 6.072 | 0,910 | 5.162 |
| 1932 . | 2.593 | 2.147 | 7.000 | 15.129 | 2,250 | 12.879 |
| 1933 . | 3.000 | 2.600 | 7.000 | 18.200 | 2,700 | 15.300 |

у першым годзе выклікана неабходнасьцю забясьпечыць нова адбудаваныя сажалкавыя гаспадаркі і засяленьне карпам дробных вазёр, якія папярэдня будуць абноўлены.

За гэтыя чатыры гады поўнасьцю будзе мэліаравана плошча вырасных сажалак рыбгаспадаркі „Чырвоная Зорка“.

Прадукцыя таварнай рыбы, улічаная з наяўнасьці нагульнай плошчы, па гадох наступная:

| ГАДЫ | Плошча нагульн. сажалак | | | З іх працуе | | Сярэдняя прадукцыя з *га* | Прад. у тыс. тон | | Усяго прадукцыі | Усяго будзе прадукц. з прыродн. і штучн. вадазбораў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бел-рыбы | Калгасаў і саўгасаў | Усяго | На натур. карму | На штучным карму | | На штучным карму | На натур. карму | | |
| 1930 . | 770 | 400 | 1.170 | 1.055 | 45 | 180 | 0,2 | 2,1 | 2,3 | 24 т. |
| 1931 . | 3.184 | 2.200 | 5.584 | 4.900 | 300 | 160 | 1,0 | 7.8 | 8,8 | 35 „ |
| 1932 . | 9.300 | 5.000 | 14.300 | 13.100 | 820 | 180 | 2,9 | 23,5 | 24,4 | 51,5 „ |
| 1933 . | 18.500 | 18.000 | 36.500 | 34.300 | 1800 | 200 | 7,2 | 69,4 | 76,6 | 126,7 „ |

Сярэдняя прадукцыйнасьць у 180 *кг* з *га* нагульных сажалак на прыродным карму ў 30 г. тлумачыцца тым, што для нагульных сажалак пакінута самая лепшая плошча, якая, па досьледах апошніх гадоў, павінна даць гэту прадукцыю. У наступныя-ж гады ў сувязі з будаўніцтвам новых сажалкавых гаспадарак, дзе няма дастатковага вывучэньня прадукцыйнасьці, прадукцыйнасьць з 1931 г. пастаўлена ніжэй з паступовым яе ўзростам па гадох.

За гэтыя чатыры гады будзе праведзена суцэльная мэліарацыя нагульных сажалак, якія маюцца ў 30 г.

Плошча сажалак Белрыбы к канцу пяцігодкі будзе арыентыровачна складаць—85 проц. нагульнай плошчы, 12 проц. вырасной, 2 проц. нераставай і 1 проц. зімавальнай.

**Сабекошт і рэалізацыя**. Скупляць карпа ў калгасах і саўгасах будуць на наступных умовах: вясною кожнага году калгасы і саўгасы будуць атрымліваць з гадавальнікаў Белрыбы пэўную колькасьць гадавікоў, якія на працягу пэрыяду, прыкладна, май—кастрычнік будуць нагульваць мяса ў нагульных сажалках калгасаў і саўгасаў

і калі ў часе атрыманьня з гадавальнікаў Белрыбы гадавік важыць прыкладна—20—25 грам, дык ужо к канцу лета ён будзе важыць да 600—700 грам.

Уся прадукцыя калгаскіх і саўгаскіх сажалак будзе кантрактавацца Белрыбай.

Карысьць ад арганізацыі нагульных сажалак у калгасах і саўгасах, на забалочаных нізінных мясцох, якія асушыць вельмі цяжка і трэба шмат сродкаў,—відаць з даных па Мазырскай акрузе, як найбольш багатай балотамі.

Бярэм для параўнаньня даходнасьць са 100 *га* пад сенажацьцю і пад сажалкавымі карпавымі гаспадаркамі:

| Пад сенажацьцю | | | Пад сажалкавай гаспадаркай | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кошт рабсілы | Кошт прадукц. | Даход на 1 *га* | Кошт амартыз. | Кошт в творч. | Кошт рабсілы | Усяго выдаткаў | Кошт прадукц. | Даход на 1 *га* |
| 12 р. | 30 р. | 18 р. | 10 р. | 4 р. | 12 р. | 26 р. | 81 р | 55 |

Вылічэньні зроблены з наступнага ўліку: 1 *га* нізіннага балота дае ў сярэднім 1,8 тоны сена, усяго на 30 р., выдаткі па уборцы—12 руб. з *га*, такім чынам пры цане сена каля 1 р. 80 кап. за цэнтнэр чысты даход з 1 *га* будзе каля 18 руб. Даход-жа з 1 *га* нагульнай сажалкі большы ў 3 разы. Пры чым разьлік зроблен так: кошт амартызацыі (пабудова 1 нагульнай сажалкі ў сярэднім 200 руб. на 20 гадоў)—10 руб. у год; кошт рабочай сілы 1 чалавека на 50 *га*, заработак якога вызначаны ў 50 руб. у месяц, кошт малька і іншыя расходы—4 р. на *га*. Лічачы ў сярэднім прадукцыйнасьць 180 клг. па 45 р. цнт., будзе 81 р., што складае чыстага даходу 55 р. на *га*. Карысьць рыбнай гаспадаркі перад лугаводнай відавочна.

**Падрыхтоўка рабочага пэрсоналу.** К канцу 5-годкі патрэбна будзе 489 рабочых і 181 служачы (у асноўным спэцыялістыя—рыбаводы). Гэта тлумачыцца характарам абслугоўваньня сажалкавай гаспадаркі, дзе асноўная работа заключаецца ў нагляданьні за мальком.

Улічана рабочая сіла на аснове таго, што к канцу пяцігодкі раёнамі эксплёатацыі Белрыбы будуць:

1) 82.000 *га* вазёр і 32.000 клм. рэк, дзе ўлоў будзе вытварацца арцелямі Кустпрамкаапэрацыі;

2) 18.000 *га* сажалак калгасаў і саўгасаў і

3) 22.000 *га*, якія знаходзяцца ў непасрэдным абслугоўваньні і эксплёатацыі Белрыбы. Калі для першых двух відаў досыць мець невялікі кантрольны апарат, дык для сажалак Белрыбы, дзе будзе закончаная гаспадарка, неабходна мець сталы добра кваліфікаваны апарат.

Разьлікі на некваліфікаваную рабсілу зроблены ў неабходнасьці мець 1 рабочага на 50 *га* (к канцу 5-годкі).

К канцу пяцігодкі патрэбна 100 рыбаводаў з ніжэйшай асьветай. Гэта выходзіць з неабходнасьці гаспадарак Белрыбы, якіх да гэтага часу будзе 29, лічачы па 3 чал. на гаспадарку і 13 чал. для абслужваньня навакольных прыродных вадазбораў.

Гэтая катэгорыя маладых спэцыялістых-рыбаводаў будзе цалкам камплектавацца Жыткавіцкай школай рыбаводзтва, якая па нашым пераконаньням павінна перайсьці пад непасрэднае кіраваньне Белрыбы.

Для абслугоўваньня гаспадарак Белрыбы і нагляду за калгаснымі і саўгаснымі сажалкамі мяркуецца да канца 5-годкі мець 16 спэцыялістых-рыбаводаў сярэдняй кваліфікацыі (скончыўшых тэхнікум). У дробных гаспадарках яны будуць у якасьці загадчыкаў, а ў буйных— памоцнікамі.

Рыбаводаў з вышэйшай асьветай мяркуецца мець для гаспадарак Белрыбы ў якасьці загадчыкаў 22 чал., 8 чал. у якасьці акруговых інструктароў па рыбаводзтву і 5 чал. для апарату Белрыбы і Калгасцэнтру.

Гэтыя дзьве катэгорыі спэцыялістых, па нашых меркаваньнях, павінны будуць контрактавацца з навучальных установ РСФСР.

Намечаная колькасьць інжынэраў і гідратэхнікаў улічана з капітальных работ, якія мяркуецца правесьці па гаспадарках Белрыбы к канцу 5-годкі, а менавіта—будзе арганізавана 22.000 *га*, а па калгасах і саўгасах—18.000 *га*. Гэта катэгорыя спэцыялістых будзе камплектавацца з Менскага гідратэхнікуму і Горацкай акадэміі.

Апрача гэтага, мяркуецца правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Для падрыхтоўкі кіраўнічага складу камандыраваць у гандлёвыя Акадэміі СССР работнікаў з адпаведным палітычным і практычным стажам.

2) Для падвышэньня кваліфікацыі кіраўнічага складу камандзіраваць штогод па 3 чалавекі на 6 месячныя курсы пры Ціміразеўскай с.-г. акадэміі па Рыбагадоўчаму факультэту (з ліку вылучэнцаў).

3) Для павышэньня кваліфікацыі нізавых работнікаў рыбаводнай справы (гаспадарак Белрыбы, саўгасаў і калгасаў) арганізаваць штогод аднамесячныя курсы пры Жыткавіцкай рыбаводнай школе, з кантыгэнтам слухачоў у 20 чалавек.

4) Камандзіраваць за межы з кіруючых работнікаў Белрыбы на 2 месяцы па 2 работнікі.

5) Запрасіць у Белрыбу 2 замежных спэцыялістых для інструктаваньня і навучэньня работнікаў Белрыбы вазёрнай, сажалкавай і рака водная справе.

6) Штогод камандзіраваць 3 чалавек з рабочага маладняка на адпаведныя Рабфакі для далейшага накіраваньня на Рыбагаспадарчы факультэт Маскоўскай Ціміразеўскай с.-г. акадэміі, а таксама камандзіраваць у с.-г. Акадэмію па аднаму чалавеку з найбольш адзначыўшыхся рабочых, прапусьціўшы праз адпаведныя кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы ў ВНУ.

З мэтай падрыхтоўкі неабходных кадраў калгасьнікаў і саўгасьнікаў па разьвіцьці сажалкавых гаспадарак, а таксама для падвышэньня кваліфікацыі рыбакоў рыбацкіх арцеляй Кустпрамкаапэрацыі мяркуецца арганізаваць шэраг курсаў. У 1930 г. на 100 чал., у 1931 г.,—150 чал., у 1932 г.—200 чал. і ў 1933 г.—250 чал.

Ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзяцца Белрыбай па падрыхтоўцы кадраў, будзе адведзена ня менш 15 проц. для жанчын.

Белрыбай ужо сёлета мяркуецца паставіць пытаньне перад Наркамасьветы БССР аб поўным прыстасаваньні вучэбнай праграмы Жыткавіцкай школы да пяцігадовага пляну разьвіцьця рыбнай прамысловасьці і адначасна пастаўлена пытаньне аб рэарганізацыі профтэхшколы ў спэцыяльны рыбаводны тэхнікум.

**Рыбак.**

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Як замацаваць і аблясіць пяскі.

**Якія расьліны можна развадзіць на пясках.** На пясках у ўмовах Беларусі могуць расьці з драўляных і хмызьняковых расьлін: хвоя, бяроза, жоўтая акацыя; з івавых—вятла, ракіта і шалюга. На нізінах на сьвежым пяску можна развадзіць асіну, дуб, топалі і ясакар.

Пяскі перш усяго трэба замацаваць праз залясеньне іх драўлянай і травяной расьліннасьцю.

Для замацаваньня сыпучых пяскоў найлепшай расьлінай у нас зьяўляецца чырвоная лаза-шалюга, якая вельмі хутка разрастаецца. У 2—3 гады яна добра ўкрывае занятую ёю плошчу і спыняе рух пяскоў. Шалюгу трэба адрозьніваць ад іншых відаў лазы па яе характэрных адзнаках: цёмначырвонай кары, па парастках, якія пакрыты шызым налётам з выцягнутымі ў даўжыню пупышкамі, якія шчыльна прылягаюць да парасткаў і па вузказялёным, доўгім і жорсткім лісьцям.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што хвоя, бяроза дуб і асіна разводзяцца насеньнем і саджанцамі, а топалі, івы і шалюга—чаранкамі і зразкамі.

**Нарыхтоўка шалюгі для замацаваньня пяскоў.** Шалюга ў нас расьце ня ўсюды, а галоўным чынам на берагох рэк Бярозы, Сожу, Дняпра і Прыпяці на голых пясчаных глебах. У мясцох дзе яе няма, трэба шалюгу развадзіць у асобных гадавальніках, як і хвою. Шалюгу трэба нарыхтоўваць восеньню, пасьля ападу лісьця, альбо раньняй вясной да набуханьня пупышак і роспуску лісьцяў. Для нарыхтоўкі дубцоў і зразкоў высякаюцца 2-х альбо 3-гадовыя кусты шалюгі ў самага кораня востра аточанай сякерай ці нажом бяз усялякіх расшчэпаў і псаваньняў кары як на пнях, так і на дубцох.

Пасадкавы матар'ял павінен быць захован сьвежым на ўвесь час пасадкі.

Высечаныя дубцы пры неабходнасьці могуць быць парэзаны на часткі—зрэзкі, даўжынёю да 50 сант.

**Шалюгаваньне пяскоў.** Пяскі падзяляюцца на сыпучыя, паўзадзярнелыя і задзярнелыя. У залежнасьці ад віду пяскоў залежыць і выбар расьліны і спосаб замацаваньня іх.

Замацаваньне пяскоў можа быць натуральным, якое зьяўляецца часовым і можа быць зроблена праз забарону пасьбы жывёлы і ворыва на пясках, і штучнае, больш надзейнае і сталае—засеў пясчаных траў і пасадку шалюгі і інш. дрэў.

Пасевам і пасадкай пясчаных траў і розным угнаеньнем сыпучыя пяскі можна ператварыць у пахаць і сенажаць, але гэта мерапрыемства патрабуе шмат працы і сродкаў.

Найлепшым мерапрыемствам замацаваньня пяскоў і пераводу іх у карысную плошчу зьяўляецца шэлюгаваньне, г. зн. пасадка шалюгі на сыпучых пясках, як папярэдняе мерапрыемства і аблясеньне іх лесам, як канчатковая мера.

Шэлюгаваньне сыпучых пяскоў робіцца featured розьнымі спосабамі: усьцілам, заворкай у барозны дубцоў, пасадкай зразкоў пад саджальную рыдлёўку, пад кол ці асобны меч і інш. Але ў нашых умовах найлепшы спосаб шэлюгаваньня будзе пасадка шалюгі дубцамі ў плужныя барозны, як самы просты, танны і хуткі.

Пры гэткім спосабе замацаваньня пяскоў, на апошнім праводзяцца ў поперак напрамку пануючага ветру, плугавыя барозны, глыбінёй да 20—25 сант., радамі з адлегласьцю 2 мэтры адна ад другой. У гэтыя барозны кладуць шалюговыя дубцы ў адзін (бесьперарыўны) рад у такім парадку, каб кожны дубец сваёй верхавінкай заходзіў на камлявую частку другога дубца. Пры гэтым, гальлісты пасадкавы матар'ял суччa асякаецца вострай сякерай альбо зьвязваецца дубцом. Пасьля гэтага зваротным ходам плуга дубцы засыпаюцца пяском.

Для атрыманьня лепшых вынікаў пасадкі прадасьцярогі дубцоў ад выдзьмуханьня ветрам і посьпехі прарастаньня іх, у час пасадкі раіцца плужныя барозны праганяць па 2 разы, а пасаджаныя дубцы глыбей засыпаць пяском і ўтоптваць нагамі.

Пасадка шалюгі аднаго гектара па гэтакаму спосабу патрабуе да 10 куб. мэтр., альбо да 3400 дубцоў даўжынёю 2 мэтры.

Акрамя гэтага, на высокіх буграстых пясках можна раіць пасадку зразкамі. Для пасадкі нарыхтоўваюцца ня дубцы, а кароткія палачкі-зразкі, даўжынёю да 40 сант. з 2-гадовых парасткаў (больш старая шалюга здатна для пасадкі яе дубцамі). Нарыхтоўку зразкоў трэба рабіць вострай сякерай з перасяканьнем пруцікаў наўкос, бо размачаленыя зразкі могуць у зямлі згніць і не прарасьці. Таму зразкі са старым зрэзам, альбо з расчэпленымі канцамі павінны асьвяжацца адсяканьнем іх у другі раз.

Пасадка робіцца таксама радамі, простастаўна пануючым заходнім вятрам (з поўначы на поўдзень), з адлегласьцю да 2-х мэтраў паміж радамі. Сядзяцца яны пад асобную саджальную рыдлёўку ці кол— шалюговымі зразкамі, з адлегласьцю апошніх да 0,7 мэтр. у радах. Пасадка зразкоў робіцца абавязкова на ўзроўні з зямлёй, камлямі ўніз, бо не прысыпаная пяском верхавіна зразка хутка абдуваецца ветрам і засыхае.

Гэты спосаб пасадкі найбольш забясьпечвае посьпех яе, але ён больш дорага каштуе, як вымагаючы шмат рабочае сілы. Гэткі спосаб ужываюць больш усяго для замацаваньня высокіх пясчаных бугроў, дзе нельга араць плугам.

Пасадку шалюгі можна рабіць восеньню і раньняй вясной у залежнасьці ад становішча надвор'я (кліматычных умоў), наяўнасьці рабочае сілы і пасадковага матар'ялу.

**Догляд за пасадкай шалюгі.** Пасаджаная шалюга патрабуе значнага догляду за сабой. Так у першыя часы да прарасту яе, пасьля кожнага моцнага ветру, трэба рабіць агляд пасадкі і выдзьмуханыя ветрам дубцы шалюгі зноў пасыпаць пяском. Там-жа, дзе дубцы не прыняліся, пасадзіць новыя.

Восеньню пры першых марозах, у мэтах атрыманьня ў будучым годзе добраякасных кустоў, гонкіх пруцьцяў шалюгі,—аднагадовыя парасткі пажадана зьлёгку скасіць. Пасьба жывёлы як на сыпучых пясках, так і пасадках павінна быць рашуча забаронена.

На другі год пасадка шалюгі асобнага догляду за сабой не патрабуе, а на трэці год, паміж радамі шалюгі ўжо можна садзіць і іншыя дрэвы і канчаткова замацоўваць пясок пасадкай лесу. Праз кожныя

4 гады пасадку шалюгі трэба „маладзіць—асьвяжаць“, бо яна пасьля ўшчыльненьня пяскоў пачынае кепска расьці і нават зусім адміраць.

Высячку шалюгі лепш усяго рабіць позьняй восеньню альбо ў зімні час па замёршай зямлі і пажадана ня суцэльна, а праз рад, чым забясьпечваецца пасадка ад выдзьмуханьня ветрам.

Шалюговыя пруцьці можна выкарыстаць, акрамя пасадковага матар'ялу, на выраб кошыкаў, чамаданаў і інш., а больш старага ўзросту—для апалу.

**Аблясеньне пяскоў хвояй**. Для канчатковага замацаваньня пяскоў, іх трэба засадзіць лесам, бо толькі дрэўная расьліннасьць спыняе іх рух.

У насельніцтва вельмі часта складаецца думка: „лес садзіць ня трэба, бо ён сам вырасьце“. Але гэта памылка, бо чакаць пакуль лес сам нарасьце на няўжыткавых землях і пяскох, дык трэба шмат гадоў, а ў мясцох пры адсутнасьці старага лесу—самааблясеньне пустак зусім немагчыма.

На адзірванелых пяскох пасадка лесу вытвараецца адразу, а на сыпучых—праз 2—3 гады пасьля пасадкі шалюгі.

На пяскох, ва ўмовах Беларусі, лепш усяго садзіць хвою звычайную, якая менш вымагальна да глебы і лепш усяго расьце на пяскох. Яна расьце ў самых дрэнных умовах, у якіх іншыя дрэўныя пароды ня могуць жыць. Пасадкавы матар'ял вырашчваецца ў асобных гадавальніках. Пасадку хвоі лепш усяго рабіць раньняй вясной, пераважна двухгадовымі сеянцамі.

Спосабаў пасадкі лесу шмат, але для залясеньня пясчаных плошчаў раіцца пасадка хвоі ў плужныя боразны, як найбольш прыдатны і танны спосаб.

Лесакультурная праца па аблясеньню пяскоў робіцца наступным чынам:

Паміж радамі шалюгі праводзяцца плугам барозны на адлегласьці аднаго мэтру. Сеянцы хвоі, змочаныя жыжай, высаджваюцца ў боразны пад рыдлёўку, саджальны кол ці меч, з адлегласьцю ад 0,5—0,7 мэт. паміж сеянцамі ў раду. Пры пасадцы лесу трэба пільна сачыць за тым, каб сеянцы былі здаровымі, ня былі загнуты карэнчыкі пры пасадцы іх у ямкі і шчыльна абсыпаны зямлёй.

Акрамя гэтага спосабу, аблясеньне пяскоў можна зрабіць па спосабу пасадкі пляцоўкамі, з адлегласьцю да 1,5 мэтр., рад ад раду і да 0,7 мэтр. у радох пляцовак.

Пасадка лесу больш усяго робіцца суцэльна, калі ўся зашэлюгаваная плошча пяскоў паступае пад пасадку дрэў, але бываюць выпадкі, калі ў мэтах абароны палёў ад вятроў і сухменяў—садзяць лес паласамі альбо „курцінамі“.

Пры пасадцы лесу неабходна імкнуцца к разьвядзеньню мешаных дрэвастанаў,—хвоі з бярозай і інш. лісьцянымі пародамі ў мэтах абароны лесу ад пашкоджаньняў пажарамі, кузуркамі і для лепшага прыкрыцьця пясчанай глебы і ўзбагачэньня яе наземам з апаўшага лісьця.

Пры разьвядзеньні хваёвых дрэвастанаў на вялікіх плошчах раіцца, у мэтах абароны маладняку ад пажараў, праз кожныя 200—300 мэтраў садзіць бярозу паласамі да 20 мэтраў шырынёй і ўсю аблесеную плошчу падзяляць прасекамі на кварталы.

Аблясеньне гектару пяскоў патрабуе да 11.000 сеянцаў хвоі.

**Догляд за пасадкай хвоі.** За пасаджаным лесам у першыя гады яго жыцьця трэба даглядаць, захоўваць яго ад патравы жывёлай, апраўляць паасобныя хвойкі ад засыпу пяском і падсякаць матыжкай пустазельле, якое заглушае маладыя дрэўцы. Праз 5 год ад пачатку аблясеньня пяскоў, у той час, як вырасшыя хвойкі сваімі голікамі здолеюць пакрыць глебу, шалюга павінна быць высечана, як выканаўшая свае прызначэньне.

Праз 10 год, у час самкненьня хваёвага маладняку—трэба зрабіць прачыстку шляхам прыборкі з іх складу прыгнечаных, паміраючых, хворых і засохшых дрэўцаў,—чым магчыма скласьці ўмовы лепшага, здаровага росту маладому ляску ў далейшым яго жыцьці.

Пяскі і равы—ворагі сельскай гаспадаркі, ня прыносяць ніякае карысьці і з кожным днём усё больш растуць.

Савецкая ўлада прымае шэраг мерапрыемстваў да зьнішчэньня пяскоў шляхам арганізацыі працы па замацаваньні пяскоў, падрыхтоўкі і ўтрыманьня спэцыялістых, вывучэньня справы, вытвару выдаткаў на працу і прыняцьця шэрагу іншых мерапрыемстваў. Але гэтага яшчэ недастаткова, бо разьвіцьцё і посьпех выкананьня працы замацаваньня пяскоў залежыць таксама ад самадзейнасьці насельніцтва і яго непасрэднага ўдзелу ў гэтай працы.

Калгасьнікі! Бярэцеся за пяскі і равы мацней, не чакайце ў барацьбе з імі, каб не спазьніцца, бо пяскі вядуць наступ на палі і сенажаці. Замацуем і аблясім пясок, равы і няпрыгодныя зямельныя плошчы ператворым у культурныя плошчы. Усім калектывам на барацьбу з пяскамі!

**Е. Міхасенка.**

# Каапэрацыйная фабрыка спатры [1])

Ёсьць у Глускім раёне фабрыка, якая займаецца вельмі цікавай вытворчасьцю. Яна вырабляе пекныя тканіны розных колераў і ўзораў... з асіны. Вытворчасьць гэтае фабрыкі была да апошняга часу адзінай у СССР.

Яна была завезена сюды немцамі, якія палажылі пачатак гэтай вытворчасьці гадоў 30 таму назад. Але ніколі гэта вытворчасьць так хутка не ўзмацнялася, як за апошнія 2—3 гады, што зьяўляецца вынікам узмацненьня і разьвіцьця каапэраванай арцелі. Спачатку тут рабілі толькі стружкі з асіны і адпраўлялі іх за межы. Там, за межамі, з гэтых стружак ткалі палотнішчы. Потым, незадоўга перад сусьветнай вайною, прыехала ў гэтую мясцовасьць жанчына з Нямеччыны, якая і навучыла мясцовых работніц прасьці з стружак тканіну. Але што гэта была за работа?! Працавала кожная жанчына ў сябе дома, у цёмным, брудным і цесным памяшканьні. Капіталісты карыстаўся цемнатою і беднатою Глускай сялянкі. Яна працавала на яго па 16 гадзін у суткі і атрымоўвала за гэта грашы. Цяпер іншая справа: работніцы аб'ядналіся, пабудавалі фабрыку. У вялікай, сьветлай і чыстай залі стаяць стройнымі шэрагамі каля сотні варштатаў. Збоку кожнага варштату вісіць пучок сьветла-жоўтых дрыўляных нітак.

[1]) Спатра—тканіна з нітак, наструганых з дрэва.

Чыстыя, румяныя работніцы, пад агульную песьню прадуць з гэтай бліскучай, гнуткай і элястычнай ніткі розныя тканіны, якія ідуць на выраб капялюшоў. У суседнім памяшканьні, таксама пабудаваным арцельлю і таксама сьветлым і чыстым, разьмяркована другая частка вытворчасьці. Тут вырабляецца з асінавых паленьняў стружка-нітка. Тут працуюць мужчыны. Працуюць яны ўжо ў іншых абставінах. Мэханізацыі тут няма—стружка вырабляецца *самым прымітыўным спосабам.* Але і гэта прымітыўная прылада вымагае аднаўленьня, а замяніць яе няма чым. Жалезкі, якімі стругаюць, пакінуты яшчэ немцамі; іх шмат разоў тачылі і ад іх засталіся адны агрызкі. Патрэбны новыя жалезкі, а іх у СССР не вырабляюць. Трэба было-б наладзіць выраб іх у нас, а калі нельга, дык прывезьці хоць-бы штук пяцьдзесят з-за граніцы, бо ў праціўным выпадку, адсутнасьць іх, можа спыніць вытворчасьць. Гэта-ж каштаваць будзе ўсяго 80—100 р.

Трэба зьвярнуць увагу на гэту галіну прамысловасьці, улічваючы, што: 1) вытворчасьць фабрыкі спатры нескладаная і ёй можа навучыцца кожная сялянка на працягу двох тыдняў: 2) праз гэтую вытворчасьць можна каапэраваць масы сялянак, што паслужыць штуршком для калектывізацыі наогул. Гэта паслужыць таксама і таму, што сялянкі будуць здаваць лён для прамысловасьці, бо выраб спатры будзе для іх значна выгаднейшы за ільняныя вырабы; 3) за граніцай і ўнутры СССР маецца вялікі попыт на гэтыя вырабы. Гэты попыт у нас павялічваецца з-за часовага недахопу баваўняных тканін, якія часткова замяняюцца спатрай (для капялюшоў); 4) вытворчасьць гэта не вымагае для свайго абсталяваньня вялікіх капітальных укладаньняў.

Трэба ўсе адзначаныя акалічнасьці ўлічыць і пабудаваць гэту вытворчасьць на Беларусі ва ўсіх тых мясцох, дзе ёсьць неабходная для гэтага сыравіна—асіна.

М-ка Глуск,
Бабруйскай акр.

**М. Каплан.**



Калгас „Чырвоны Гароднік“ пад Менскам

*Увгрсе:* расьпілоўка бярвеньня.

*Унізе:* выемка зямлі для пабудовы склепу.

# Усебеларуская выстаўка



Павільён тэхнічных культур.



Вэгетацыйны домік.

## Падрыхтавацца да арганізацыі экскурсій на выстаўку.

У жніўні гэтага году, згодна пастановы Ураду БССР, у г. Менску адчыніцца 1-ая Усебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Мы нашу выстаўку арганізуем у час шырока разгорнутага працэсу сацыялістычнага будаўніцтва.

Па гэтаму дзьве галоўныя ідэі пакладзены ў аснову арганізацыі выстаўкі.

Першая—паказаць ролю індустрыялізацыі ў перабудове сельскае гаспадаркі. Прычым трэба паказаць вядучую ролю індустрыялізацыі такім чынам, каб кожны селянін вышаў пасьля абгляду выстаўкі ўпэўненым, што без таго, пакуль наша прамысловасьць ня стане фактычным кіраўніком сельскае гаспадаркі, нам з жабрацтва ня вылезьці, з худога каня на машыну не перасесьці.

Другая ідэя—гэта выпячваньне аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі і паказаньне працэсу пераходу ад раздробленай адсталай індывідуальнай гаспадаркі да буйнага зямлякарыстаньня.

У зьвязку з усім гэтым выстаўка павінна быць школай індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскае гаспадаркі, якая-б магла дапамагчы самым шырокім рабочым і бядняцка-серадняцкім масам насельніцтва пасьпяхова выканаць пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі БССР, падняўшы яе на належную культурную

і тэхнічную вышыню, зрабіўшы яе моцнай соцыялістычнай гаспадаркай і гэтым самым значна палепшыць культурныя, бытавыя і матэрыяльныя ўмовы працоўных мас.

Ва ўмовах БССР, як прымежнай Рэспублікі Саветаў, наша выстаўка павінна таксама ілюстраваць барацьбу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ўсіх нацыянальнасьцяй Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам Комуністычнае Партыі за вызваленьне ад улады капіталістых. Адначасова выстаўка павінна адбіць дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Першая Ўсебеларуская выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што вызваленьне Беларусі ад абшарнікаў і капіталістых, утварэньне Савецкай улады, улады дыктатуры пролетарыяту, забясьпечыла магчымасьць шырокага разгортваньня гаспадарчага і культурнага разьвіцьця нашае краіны.

Выстаўка павінна паказаць усім працоўным БССР матар'яльныя магчымасьці нашае краіны для пабудовы соцыялізму. Яна павінна яскрава падкрэсьліваць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны, праз соцыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі шляхам яе колектывізацыі, Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачу перамогі соцыялізму.

Вось з гэтае прычыны выстаўка мае вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне.

Ставячы перад сабой такія вялікія мэты, выстаўка дасягне іх толькі тады, калі яна будзе мець масавы характар, калі з ёю пазнаёмяцца шырокія масы рабочых і сялян. Вось чаму галоўны Выставачны Камітэт і вынес пастанову аб неабходнасьці правядзеньня арганізаваных экскурсій працоўных мас на 1-ую Ўсебеларускую выстаўку дзеля азнаямленьня апошніх, як з усімі дасягненьнямі БССР за 10 год, так з тымі шляхамі, па якіх пойдзе далейшае разьвіцьцё народнай гаспадаркі. Мяркуецца за час існаваньня выстаўкі прапусьціць 50.000 чалавек.

Каб даць магчымасьць удзельнічаць у экскурсіях на выстаўку бядняцкай часткі насельніцтва, Урад пайшоў на ўстанаўленьне для экскурсантаў значных ільгот, якія будуць дыфэрэнцыраваны ад скідкі ў разьмеры 50 проц. чыгуначнага тарыфу да аплаты ўсіх выдаткаў, зьвязаных з удзельнічаньнем у экскурсіі. Прычым ільготы будуць прадстаўляцца на мясцох Рай і Акрвыстаўкомамі ў залежнасьці ад матар'яльнай забясьпечанасьці той ці іншай групы насельніцтва.

Рай і Акрвыстаўкомы шырока азнаёмяць насельніцтва аб часе экскурсій, прычым будзе аб'яўлен тэрмін прыёму заяў ад асоб, жадаючых прыняць удзел у экскурсіях.

Адначасова з гэтым трэба мабілізаваць самадзейнасьць мясцовых арганізацый у справе адпусканьня сродкаў для правядзеньня экскурсій. Абмежавацца толькі сродкамі, якія вылучыў для гэтай мэты ўрад, ніяк немагчыма. Трэба вакол гэтага пытаньня завайстрыць увагу нашых каапэрацыйных арганізацый, шэф.-т-ва і інш. грамадзкіх арганізацый, якія павінны ўзяць на сябе абавязкі паслаць пэўную колькасьць экскурсантаў за свой кошт. Грошы на такую справу павінны знайсьціся. Трэба ўсё культурнае абслугоўваньне вёскі ўвязаць і падпарадкаваць мэтам выстаўкі.

Таму праца ў гэтай галіне ўсіх каапэрацыйных сыстэм, шэфскіх і іншых грамадзкіх арганізацый павінна быць пабудавана пад гэтым пунктам погляду.

Неабходна, каб і краязнаўчыя арганізацыі прынялі ўдзел у працы па арганізацыі экскурсій. Тады мы, напэўна зможам павялічыць і агульны лік экскурсантаў, што будзе вельмі карысна.

Пакуль што мяркуецца прапусьціць праз выстаўку 50.000 чал. З гэтай колькасьці ўзяў на сябе абавязак правесьці за свой кошт ЦСПСБ—4.000 рабочых і Ваенвед 2.000 чырвонаармейцаў. Астатняя колькасьць—44.000 чал. разьмеркавана Дырэкцыяй Выстаўкі па акругах, выходзячы з удзельнай вагі акруг. Лічбы разьмеркаваньня наступныя:

1. Менская акруга пасылае 7.480 чал.
2. Мазырская „ „ 3.520 „
3. Бабруйская „ „ 6.160 „
4. Гомельская „ „ 5.720 „
5. Магілеўская „ „ 7.480 „
6. Аршанская „ „ 5.280 „
7. Віцебская „ „ 4.840 „
8. Полацкая „ „ 3.520 „

Акрвыстаўкомы, на якіх ускладаецца арганізацыя экскурсій у акрузе—разьмяркоўваюць устаноўленую для іх лічбу па раёнах, выходзячы з удзельнай вагі раёнаў, прычым з усёй агульнай колькасьці мяркуецца адвесьці:

1. Калгасьнікам . . . . . . . . . . . 40%
2. Саюзу с.-г. рабочых; для рабочых саўгасаў, батракоў і лясных рабочых . . 10%
3. Вучням і вясковай інтэлігенцыі . . . 10%
4. Сябрам саматужнае каапэрацыі . . . 5%
5. Сялянам (бядняцка-серадняцкіх мас) з якіх КСМ—10% . . . . . . . . . . 35%

Экскурсіі на выстаўкі разьлічаны на 3 дні, ня лічачы час у дарозе

У мэтах дэманстраваньня пэўнай змычкі працоўных гораду з працоўнымі вёскі, прафэсыйныя саюзы г. Менску ўзялі шэфства над экскурсантамі сялянамі, чаму экскурсанты на час абгляду выстаўкі будуць разьмяшчацца на кватэрах рабочых і служачых. Гэта жывая сувязь дасьць належны палітычны эфэкт, бо працоўныя гораду і вёскі змогуць азнаёміць адзін другога ў жывой гутарцы са сваім жыцьцём, бытам і г. д.

Ад таго, як мы падрыхтуемся да выкананьня гэтай важнай з палітычнага боку справы—залежыць яе посьпех. Трэба мець на ўвазе, што з тэхнічнага боку пасьпяховае Шэфства прафсаюзаў над сялянамі на час выстаўкі— справа даволі складаная, чаму рыхтавацца да яе трэба вельмі сур'ёзна.

Вакол пытаньня арганізацыі экскурсій на выстаўку трэба стварыць грамадзкую думку, правесьці растлумачальную працу сярод рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, каб кожны з іх ня толькі ведаў аб выстаўцы, а жадаў-бы ў той ці іншай меры прыняць у ёй удзел.

Толькі тады, калі мы мабілізуем вакол гэтай справы ўсё жывое, калі мы мабілізуем вакол гэтага пытаньня шырокія пласты працоўнага насельніцтва, мы справімся з правядзеньнем арганізаванай экскурсіі на выстаўку.

**Л. Таўкач.**

# Сельская гаспадарка на выстаўцы

Першая Ўсебеларуская Выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці адчыняецца 10 жніўня.

Усебеларуская Выстаўка — першы агляд нашых дасягненьняў за 10 год.

На ўсебеларускім аглядзе будзе адлюстравана сацыялістычнае будаўніцтва ўсяе народнае гаспадаркі пасьля вызваленьня БССР ад белапалякаў.

Перад Усебеларускай выстаўкай пастаўлены наступныя задачы:

1. Яскрава адзначыць кіруючую ролю камуністычнае партыі ў індустрылізацыі і сацыялістычным будаўніцтве пад лёзунгам „партыя і Ленін у сацыялістычным будаўніцтве".

2. Паказаць усё лепшае ў нашым сацыялістычным будаўніцтве за 10 год, з адначасовым параўнаньнем адмоўных бакоў, перашкаджаючых разьвіцьцю сацыялістычнага сэктару, асабліва ў галіне калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

3. Узварушыць усю савецкую грамадзкасьць для выкананьня пяцігодкі сацыялістычнай перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі ў чатыры гады, шырока скарыстоўваючы вопыт сацыялістычнага спаборніцтва, як адну з лепшых форм па ўцягненьню ўсёй рабочай клясы, батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы вёскі для хутчэйшага выкананьня пяцігодкі.

4. Паказаць ролю буйных гаспадарак ў сацыялістычнай рэканструкцыі і перавагу іх перад дробнай гаспадаркай.

5. Выявіць вынікі ліквідацыі кулацтва як клясы і замены яго вытворчасьці—вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў, адбіўшы ролю рабочай клясы ў калгасным будаўніцтве.

Выходзячы з асноўных установак, сельская гаспадарка на Выстаўцы будзе прадстаўлена двумя сэктарамі—аграмаджаным і індывідуальным (бядняцка-серадняцкай гаспадаркі). Аграмаджаны сэктар — саўгасы, калгасы і вытворчыя аб'яднаньні,—павінен заняць асноўнае месца. Для разьмяшчэньня экспанатаў аграмаджанага сэктару вызначана месца ў галоўным павільёне, дзе адведзен другі паверх.

Апроч таго, экспанаты расьлінагадоўлі разьмяшчаюцца ў павільёнах масавых экспанатаў па паляводзтву, тэхкультур, садоўніцтву і гародніцтву. Па жывёлагадоўлі прадстаўляюцца лепшыя экзэмпляры крупнай рагатай жывёлы, сьвіней, дробная жывёла (авечкі, козы, трусы і птушкі) і коні. Рознай жывёлы чакаецца каля 1.600 галоў. У аддзеле жывёлагадоўлі ёсьць мэханізаваны скотны двор, дзе ўсе працэсы догляду, уборкі і дойкі будуць паказаны. Ужо ўстаноўлена падвесная чыгунка, па якой будзе развазіцца корм і вывозіцца з хлявоў гной.

Гаспадаркі аграмаджанага сэктару павінны прадставіць усё лепшае, каб сапраўды можна было паказаць нашы дасягненьні ў галіне сацыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Бядняцка-серадняцкія гаспадаркі прадстаўляюць усе лепшыя экспанаты па расьліногадоўлі і жывёлагадоўлі, якія разьмяшчаюцца сумесна з экспанатамі аграмаджанага сэктару. Па расьлінагадоўлі чакаецца звыш 1000 гаспадарак БССР.

Разам з экспанатамі гападарак аграмаджанага сэктару, бядняцка-серадняцкімі,—дасьледчыя станцыі БССР прадстаўляюць экспанаты вынікаў праведзеных досьледаў на станцыях, у гаспадарках аграмаджанага сэктару і сялян дасьледчыкаў.

## На тэрыторыі Выстаўкі ў натуры маюцца наступныя севазвароты:

### I. Чатырохпалёвы:

1. Папар заняты (лубін на ўгнаеньне)
2. Азімае жыта
3. Бульба
4. Лубін на насеньне.

### II. Чатырохпалёвы:

1. Азімая жытня-вікавая мешанка, пасьля ўборкі—пажніўны лубін.
2. Азімае жыта, па якому палова падсяваецца сэрадэля і палова пажніўны лубін.
3. Бульба і цукровыя буракі.

### III. Сяміпалёўка:

1. Бульба.
2. Жытня - вікавая мешанка, пасьля ўборкі—палова турнэпсу і палова вікавай мешанкі
3. Кораньплоды.
4. Авёс з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Азімае жыта.

### IV. Васьміпалёўка.

1. Папар заняты лубінам.
2. Азімае жыта з падсевам.
3. Бульба.
4. Авёс з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Азімае жыта і сэрадэля.
8. Ярына.

### V. Трохпалёўка з 6-гадовым чаргаваньнем:

1. Папар заняты—ярушка віка
2. Азімае жыта
3. Бульба
4. Ярына з падсевам канюшыны
5. Канюшына 1 скосу.

### VI. Чатырохпалёўка:

1. Бульба.
2. Авёс з падсевам канюшыны.
3. Канюшына 1 скосу.
4. Азімае жыта пасьля—пажніўцы лубін

### VII. Пяціпалёўка:

1. Папар заняты (віка, авёс і лубін).
2. Азімае жыта з падсевам канюшыны
3. Канюшына 1 скосу
4. Канюшына 2 скосу
5. Лён—авёс (поле падзяляецца папалам)

### VIII. Сяміпалёўка:

1. Папар заняты лубінам.
2. Азімае жыта з падсевам канюшыны.
3. Канюшына 1 скосу.
4. Канюшына 2 скосу.
5. Бульба
6. Лён.
7. Авёс.

### IX. Шасьціпалёўка:

1. Пацар заняты лубінам
2. Азімае жыта з сэрадэляй.
3. Бульба.
4. Авёс з канюшынай.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Авёс.

### X. Шасьціпалёўка.

1. Бульба па гною.
2. Авёс з падсевам канюшыны.
3. Канюшына 1 скосу.
4. Канюшына 2 скосу.
5. Азімая пшаніца і азімае жыта.
6. Авёс і гарох.

### XI. Сяміпалёўка:

1. Папар заняты лубінам.
2. Азімае жыта.
3. Бульба.
4. Авёс з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Лён.

### XII. Васьміпалёўка:

1. Папар заняты—віка-аўсяная мешанка
2. Азімае жыта.
3. Бульба.
4. Авёс з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Азімае жыта.
8. Авёс.

### XIII. Васьміпалёўка:

1. Папар заняты—лён.
2. Азімае жыта з падсевам канюшыны
3. Канюшына 1 скосу.
4. Канюшына 2 скосу.
5. Лён.
6. Бульба па штучнаму ўгнаеньню.
7. Азімае жыта.
8. Авёс.

### XIV. Васьміпалёўка.

1. Папар заняты—віка-аўсяная мешанка.
2. Азімае жыта.
3. Бульба.
4. Ярына з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Лён.
8. Авёс.

**XV. Васьміпалёўка:**

1. Папар заняты лубінам.
2. Азімае жыта.
3. Бульба.
4. Ярына з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Бульба.
8. Авёс.

**XVI. Дзевяціпалёўка:**

1. Папар заняты раньняй бульбай.
2. Азімае жыта.
3. Бульба.
4. Ярына з падсевам канюшыны.
5. Канюшына 1 скосу.
6. Канюшына 2 скосу.
7. Выпас.
8. Азімае жыта.
9. Ярына.

**XVII. Дзесяціпалёўка:**

1. Папар заняты лубінам.
2. Азімае жыта з падс. канюшыны.
3. Канюшына 1 скосу.
4. Канюшына 2 скосу.
5. Лён.
6. Папар заняты вікавай мешанкай.
7. Азімае жыта.
8. Бульба.
9. Лён.
10. Ярына.

**XXIII. Трохпалёўка з 10-гадовым чаргаваньнем.**

1. Папар заняты раньняй бульбай.
2. Азімае жыта з падсевам канюшыны.
3. Канюшына 1 скосу.
4. Канюшына 2 скосу.
5. Лён.
6. Ярына.
7. Папар заняты лубінам.
8. Жыта з падсевам сэрадэлі.
9. Бульба.

На ўсе гэтыя севазвароты маюцца і эканамічныя разьлікі. Кніжка гэта ўжо друкуецца і к моманту адчыненьня Выстаўкі мы будзем мець досыць каштоўную працу агранома Бойка Б. С.

На тэрыторыі Выстаўкі ў натуральным выглядзе заложан прамысловы сад на 6 *га* і тут-жа радам пабудаван завод па перапрацоўцы садавіны.

Гародніна і новыя культуры шырока дэманструюцца на Выстаўцы.

У павільёне тэхкультур (лён і канаплі) будзе адабражана эканоміка і арганізацыя ўсяе справы тэхкультур ў БССР. Усё гэта яшчэ дапаўняецца мэханізацыяй і электрыфікацыяй сельскае гаспадаркі.

Як відаць, сельска-гаспадарчы сэктар ня толькі ў натуральных экспанатах адаб'е ўсю сельскую гаспадарку, а ўсё гэта цесна ўвязана з мэханізацыяй і электрыфікацыяй сельскай гаспадаркі як па расьлінагадоўлі, так і па жывелагадоўлі.

Аддзел мэліорацыі, культуры балот і торфу на балотнай станцыі радам з тэрыторыяй Выстаўкі пакажа ўсе дасягненьні ў гэтай галіне і ў натуры адлюструе ўсю працу.

Лясная гаспадарка ў асобным павільёне пакажа, якую ролю яна іграе ў народнай гаспадарцы і якія бліжэйшыя задачы стаяць па развіцьцю лясной гаспадаркі ў час сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі.

Рыбная гаспадарка будзе паказана ў натуры ў гаспадарцы Сьляпянка, дзе маюцца спэцыяльныя сажалкі.

Ад таго, як мы падрыхтуем экспанаты, як мабілізуем каля папулярызацыі Выстаўкі шырокія колы рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас,— залежыць заклад таго, што пастаўленыя задачы перад Усебеларускім аглядам выканаем.

Усебеларуская Выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці чакае экспанатаў і энтузіязму па ператварэньні Выстаўкі ў школу па хутчэйшаму ажыцьцяўленьню сацыялізму ў нашай краіне. **К. Кіпрыянец.**

Адказны рэдактар—**Рачыцкі.** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

# Пашырым падпіску

## НА ЧАСОПІС

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**Дадзім новыя тысячы падпісчыкаў на часопіс „Шляхі Калектывізацыі“**

Кожны член камуны і калгасу, кожны бядняк і серадняк вёскі павінен чытаць часопіс сацыялістычнага земляробства і агранамізацыі— „Шляхі Калектывізацыі“.

# Камуна імя N-й стр. дывізыі выклікае на спаборніцтва

**(Ветрынскі раён)**

Маючы на ўвазе, што часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ зьяўляецца адзіным часопісам у БССР, які больш поўна асьвятляе калгаснае будаўніцтва, зьяўляецца добрым памоцнікам у практычнай працы па перабудове сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад,— праўленьне і ўвесь актыў Чырвонаармейскай камуны імя №-й стр. дывізыі (Ветрынскі раён) паставілі перад сабой задачу: **дабіцца падпіскі на часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ на кожную сям‘ю камуны па 1 экз. да 1 студзеня 1931 г.**

Зараз праўленьнем часопіс выпісана ўжо на кожнае аддзяленьне, камуны, а таксама падпісаліся ўсе члены праўленьня і актыў камуны.

**Камуна выклікае на соцспаборніцтва—па распаўсюджваньню часопісу „Шляхі Калектывізацыі“—камуны „Красная Звезда“ і БВА (Полаччына) і ўсе калгасы Ветрынскага раёну, у першую чаргу калгас імя тав. Мялешка.**

Старшыня Камуны **В. Чарняўскі.**

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Стаховічу А.**—Апавяданьне „Сын дапамог“ ня пойдзе, вельмі слаба напісана. Дасылайце карэспандэнцыі аб жыцьці вашага калгасу.

**А. Б.**—Допіс „Нарада старшынь калгасаў“ і картку накіравалі ў газэту „Беларуская Вёска“ для скарыстаньня.

**М. Ш.**—Аб уборачнай кампаніі пераслалі ў „Беларускую Вёску“ таму, што гэты ваш допіс у часопісу вышаў-бы позна надта. Напішэце ў „Ш. К.“ аб выніках уборкі і аб жыцьці вашага калгасу.

**Паўлоўскаму.**—Аб сіласаваньні пераслалі ў „Беларускую Вёску“.

**Да ўсіх селькораў-калгасьнікаў.** Рэдакцыя часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ чакае ад вас допісаў аб жыцьці і працы калектыўных гаспадарак, аб тым, як калгасы ўправіліся з уборкай ураджаю, падрыхтоўка і правядзеньне асеньняй сяўбы і г. д.

ЦАНА 20 КАП.

ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс сацыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікоў калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б.

Тэлефон 17-15.

Менск, друк. БДВ. Зак. № 2156. 12.000. (3 арк.) Галоўлітбел № 2494.